*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 4 верасня 1987 г. № 36 (3394) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## УНУМАРЫ:





Любяць на Смаргоншчыне свой самадзейны тэатр лялек «Батлейка». Яго спектаклі з поспехам ідуць не толькі ў клубах, але на кірмашах і вясковых аселіцах.
Фота С. КРЫЦКАГА.

## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Часам у нашу рэдакцыю звяртаюцца пісьмова, па тэлефоне, а пры выпадку і асабіста з просьбай дапамагчы набыць той або іншы нумар «ЛіМа». Пры гэтым чытачы скардзяцца, што набыць нашу газету ў кіёску не змаглі. Што праўда, то праўда: «Літаратуры і мастацтва» ў кіёскі «Саюздруку» (не толькі мінскія, пра што сведчыць пошта з розных раёнаў рэспублікі) паступае няшмат.

На жаль, адгукацца на такія просьбы і высылаць тыя ці іншыя экземпляры газеты рэдакцыя пры ўсім жаданні не ў стане.

Аднак выйсце ёсць! Самае простае і надзейнае — ПАДПІСАЦЦА НА «ЛІТАРАТУРУ І МАСТАЦТВА»!

Падпіска прымаецца ва ўсіх установах «Саюздруку» і аддзяленнях сувязі без абмежаванняў. Падпісацца можна на любы тэрмін, пачынаючы з любога месяца — трэба толькі паклапаціцца аб гэтым загадзя.

А лепш за ўсё падпісацца на год! Гэта гарантыя таго, што вы будзеце ў курсе ўсіх культурных падзей у нашай рэспубліцы.

На старонках «ЛіМа» вы сустрэнецеся з выдатнымі беларускімі пісьменнікамі і мастакамі, кампазітарамі і музыкантамі рэжысёрамі і выканаўцамі, з прадстаўнікамі творчай моладзі, з гасцямі нашай рэспублікі.

Рэдакцыя будзе і далей працягваць дзелавую і прынцыповую гаворку аб надзённых праблемах перабудовы, дэмакратызацыі грамадскага жыцця.

Старонкі газеты адкрыты для вострых дыскусій па актуальных праблемах культуры, гісторыі і сучаснасці.

І канечне ж, галоўным аўтарам «ЛіМа» застаяцеся вы — нашы чытачы.

Чакаем вашых пісем, меркаванняў і прапаноў...

## НАВіНЫ ТЫДНЯ

## ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ЮБІЛЕЮ

Напярэдадні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка Дзяржаўны мастацкі музей БССР працягвае паказ серыі выставак, прысвечаных творчасці майстроў савецкага выяўленчага мастацтва. З лепшымі работамі народнага мастака СССР М. Савіцкага, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Кашкурэвіча, заслужанага дзеяча мастацтваў Літоўскай ССР С. Красаўскаса гледачы пазнаёміліся. У верасні музей рыхтуецца паказаць у Магілёве экспазіцыю з карцін І. Бродскага. Наведвальнікі выставачнай залы ў Раўбічах пазнаёмяцца з работамі вядомых беларускіх майстроў саломапляцення В. Гаўрылюк, Т. Агафоненка, Т. Паўлавай. У кастрычніку-лістападзе ў музеі будзе дэманстравацца выстаўка твораў старэйшых савецкіх мастакоў — першых лаўрэатаў ганаровых званняў—народнага мастака РСФСР А. Архіпава, народнага мастака СССР В. Бакшэева, заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР М. Несцерава.

●

Аб'ёмны, маляўніча аформлены альбом «Дарогай Кастрычніка» выпусціла да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка выдавецтва «Беларусь». Тэкст, напісаны Б. Стральцовым, а таксама шматлікія здымкі, узятыя з архіва кінафотадакументаў БССР, Дзяржаўнага музея БССР і Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а таксама выкананыя вядомымі фотамайстрамі рэспублікі, дазваляюць прасачыць, як ідэі рэвалюцыі, Кастрычніка знайшлі сваё ўвасабленне на беларускай зямлі.

Асобны раздзел «Зямля, якая спявае» знаёміць з літаратурным і культурным жыццём сацыялістычнай Беларусі.

## Запрашае ММКВК-87

8 верасня гасцінна расчыняе свае дзверы адно з самых аўтарытэтных у свеце кніжных мерапрыемстваў — Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Сёлета яна праводзіцца ў шосты раз. Як заўсёды, у ММКВК прымаюць актыўны ўдзел і выдавецтвы рэспублікі, у тым ліку «Мастацкая літаратура». Да гэтай знамянальнай падзеі ўсе яны падрыхтавалі лепшыя свае выданні, а таксама разнастайны рэкламны матэрыял, які дапаможа наведвальнікам выстаўкі, выдаўцам з замежных краін атрымаць поўнае і ўсебаковае ўяўленне аб беларускай кнізе.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», у прыватнасці, выпусціла спецыяльныя буклеты, прысвечаныя творчасці І. Мележа, В. Казько, А. Кудраўца, Б. Сачанкі. Змешчаны партрэты пісьменнікаў, расказваецца пра іх творчасць, багата выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял да іх кніг.

Уяўляе цікавасць і каталог, у якім змешчана інфармацыя аб найбольш цікавых і значных творах прозы, паэзіі, драматургіі і літаратуразнаўства, якія пабачылі свет у апошнія два гады. Дадзена падрабязная анатацыя больш чым пра 60 кніг.

## САРОД — ЗНАЧЫЦЬ МЕЛОДЫЯ

У рэспубліцы працягваюцца мерапрыемствы Фестывалю Індыі ў СССР. У рамках яго на мінулым тыдні прайшоў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі канцэрт вядомага выканаўцы Амджада Алі Хана, вядучага сарадзіста Індыі. Музычны інструмент сарод — варыянт старадаўняга рабаба, які распаўсюджаны здаўна ў многіх краінах Усходу.

Сарод у перакладзе азначае — мелодыя. Ён робіцца з дрэва, металу і скуры, а іграюць на ім пры дапамозе медыатара са шкарлупіны какосавага арэха. Атрымліваецца дзіўная, ні з чым не параўнальная мелодыя. Ацаніць яе па вартасцях змаглі мінчане і госці сталіцы рэспублікі.

## УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

### Аб узнагароджанні тав. Алеся АДАМОВІЧА (АДАМОВІЧА А. М.) ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзіць пісьменніка Алеся **Адамовіча** (**Адамовіча** Аляксандра Міхайлавіча) ордэнам **Працоўнага Чырвонага** Сцяга.

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**А. ГРАМЫКА.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**Т. МЕНТЭШАШВІЛІ.**

Масква, Крэмль. 2 верасня 1987 г.

## ПАМЯЦІ ЛЕГЕНДАРНАЙ ЖАНЧЫНЫ



У час акрыцця музея выступае Уладзімір Ліпскі.
Фота К. ЖАРНАСЕКА.

У Полацку адкрыта мемарыяльная кватэра-музей Героя Савецкага Саюза Зінаіды Тусналобавай-Марчанка. Урачыстасць пачалася выступленнем самадзейных артыстаў Палаца культуры вытворчага аб'яднання «Шкловалакно», якія расказалі аб жыцці гераіні. Прагучалі фрагменты з кнігі У. Ліпскага «Крутыя вёрсты» пра лёс цяжкі, знявечаны вайной: у дваццаць тры гады З. Тусналобава засталася без рук і ног.

На мітынгу выступілі былы франтавы ўрач Г. Лебедзева, сакратар камсамольскай арганізацыі Полацкага медвучылішча імя З. Тусналобавай-Марчанка Н. Фядзеня, пісьменнік У. Ліпскі, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, першы сакратар ГК КПБ Л. Шчадрова. Быў адкрыты бронзавы бюст гераіні, аўтар якога — скульптар-палачанін В. Ганчароў.

Першымі наведалі музей удзельнікі вызвалення Полацка, якія прыехалі сюды з усіх канцоў краіны. Багатая экспазіцыя музея. Ёсць у ім газеты, якія расказваюць аб подзвігу З. Тусналобавай-Марчанка, у тым ліку франтавая газета «Вперед, на врага» з заклікам гераіні да воінаў-вызваліцеляў Беларусі. Тут жа — шматлікія пісьмы, тэлеграмы, якія ішлі да Зінаіды Міхайлаўны адусюль, нават з ЗША і іншых краін, і адказ, напісаны ёю пры дапамозе спецыяльнага прыстасавання, якое таксама ёсць у экспазіцыі. На сцяне пад шклом — Залатая Зорка Героя Савецкага Саюза, іншыя ўзнагароды, якіх была ўдастоена З. М. Тусналобава-Марчанка, медаль «Флорэнс Найцінгейл» — вышэйшая ўзнагарода Міжнароднага Чырвонага Крыжа за міласэрнасць і мужнасць. У нашай краіне Тусналобава-Марчанка была трэцяй сярод удастоеных яго.

І. КАВАЛЕЎСКАЯ.

# КАСТРЫЧНІК І ПЕРАБУДОВА




## Анкета «ЛіМа»

**1. У чым Вы асабіста бачыце пераемнасць рэвалюцыйных традыцый, практычную сувязь перабудовы з ідэаламі Кастрычніка?**

**2. Як Вы ўяўляеце значэнне чалавечага фактара, чалавечай асобы ў працэсе перабудовы? Ролю мастака ў рэвалюцыйным абнаўленні, якое адбываецца ў грамадстве?**

**На гэтую нашу анкету ўжо адказалі кампазітар Я. Глебаў і кінарэжысёр В. Нікіфараў. Сёння друкуем адказы Героя Сацыялістычнай Працы, народнага мастака СССР Заіра Азгура.**

1. Рэвалюцыйная перабудова нашага савецкага грамадства на новым этапе сацыяльнага і эканамічнага развіцця — гэта, на маю думку, працяг той карэннай перабудовы свету, што была абвешчана нашай партыяй у семнаццатым годзе як праграма дзеяння. Рэвалюцыйныя змены не былі навязаны працоўным краіны, а былі абумоўлены, нараджаліся і выспявалі ў самім грамадстве, у самой краіне. Сучасныя перамены ў нашым жыцці — гэта натуральны ход развіцця, які вымагае рашучага абнаўлення і ўдасканалення метадаў гаспадарання, працы, эканамічнага планавання, кіраўніцтва ва ўсіх галінах вытворчасці, навукі, культуры. Натуральны і рэвалюцыйны! Дыялектыка грамадскага развіцця, як яе разумеў У. І. Ленін, рухае наша жыццё ў маштабах краіны і ўсёй планеты.

Што асабліва дарагое было для пралетарыяту, які заваяваў уладу ў кастрычніку 1917 года? Мяркую па асабістых перажываннях таго часу, па асабістых уражаннях, пераважна эмацыянальных, бо тады быў зусім юным. Рэвалюцыя разбурыла нацыянальную ізаляванасць і падняволенасць народаў Расіі. Людзі розных нацый раптам свабодна на ўвесь голас загаварылі на сваёй мове пра агульныя народныя справы, разумеючы адзін аднаго, ахопленыя агульным настроем — настроем духоўнага ўздыму.

Віцебск першых гадоў Савецкай улады, які ўрэзаўся ў маю хлапечую памяць як горад па-святочнаму ўзрушаны

Якімі б унікальнымі ні былі поспехі ў галіне нацыянальнай палітыкі, Камуністычная партыя дыялектычна падыходзіць да іх аналізу і ацэнкі. У Палітычным дакладзе ЦК КПСС XXVII з'езду партыі падкрэслена, што нашы дасягненні не павінны ствараць уяўлення аб беспраблемнасці нацыянальных працэсаў. Супярэчнасці непазбежныя і ў гэтай сферы. Важна іх своечасова заўважаць, асэнсоўваць, знаходзіць правільныя шляхі вырашэння.

Сапраўды, міжнацыянальнага антаганізму ў сацыялістычным грамадстве няма, але супярэчнасці неантаганістычнага характару маюць месца. На гэта ў свой час указаў У. І. Ленін: «Антаганізм і супярэчнасць зусім не адно і тое ж. Першае знікае, другое застаецца пры сацыялізме».

Неабходна ўлічваць тое, што ў нашай шматнацыянальнай краіне, якая налічвае больш, як сто нацый, народнасцей, нацыянальных і этнічных груп, яны адрозніваюцца і па ўдзельнай вазе насельніцтва СССР, па памерах тэрыторыі рассялення, наяўнасці прыродных багаццяў, працоўных рэсурсаў, па сацыяльна-класавай структуры, удзельнай вазе нацыянальнага атрада рабочага класа, інтэлігенцыі, па асаблівасцях нацыянальных культур, традыцый, быту, псіхалогіі і г. д.

Дынаміка развіцця такой буйной шматнацыянальнай дзяржавы, як наша, нараджае нямала праблем у жыцці нацый і народнасцей. Гэта абумоўлена ўзмацненнем інтэрнацыяналізацыі эканамічных і культурных сувязей паміж народамі, абменам матэрыяльнымі і духоўнымі каштоўнасцямі, пераразмеркаваннем працоўных рэсурсаў, шматнацыянальнасцю рэспублік, рэгіёнаў, працоўных калектываў. Не сакрэт, што сярод некаторай адсталай часткі насельніцтва маюць месца такія негатыўныя з'явы, як нацыянальная абмежаванасць, непаважлівыя адносіны да культуры і мовы іншых народаў, зазнайства і фанабэрыстасць, пазакласавы падыход у ацэнцы гістарычнага мінулага і г. д.

На студзеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС адзначалася, што негатыўныя з'явы і дэфармацыі, з якімі вядзецца зараз барацьба, праявіліся і ў сферы нацыянальнай. Даюць сябе адчуваць праявы месніцтва і нацыянальнай замкнёнасці. Усё гэта дыктуе неабходнасць пільнай увагі да праблем развіцця міжнацыянальных адносін, узмацнення інтэрнацыянальнага выхавання працоўных.

# ГРАНІ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

Вопыт сведчыць, што нацыяналістычным праявам можа быць паспяхова супрацьпастаўлены паслядоўны інтэрнацыяналізм, высокая культура міжнацыянальных адносін.

У пастанове ЦК КПСС «Аб рабоце Казахскай рэспубліканскай партыйнай арганізацыі па інтэрнацыянальным і патрыятычным выхаванні працоўных (1987 г.) гаворыцца: «Сёння, калі рэвалюцыйныя працэсы аднаўлення ахопліваюць усе бакі жыцця грамадства, своечасовае вырашэнне ўзнікаючых праблем у сферы нацыянальных адносін набывае важнейшае значэнне. Любое праяўленне шавінізму і нацыяналізму, нацыянальнай замкнёнасці і чванства павінна разглядацца як пасягальніцтва на найвялікшую заваёву сацыялізму — брацкую дружбу народаў, інтэрнацыянальнае адзінства савецкага грамадства».

Ва ўмовах дэмакратызацыі грамадства, хуткага росту нацыянальнай самасвядомасці ўсіх нацый і народнасцей, паглыблення працэсаў інтэрнацыяналізацыі асабліва важнае значэнне набывае аб'ектыўны і ўсебаковы аналіз унутрынацыянальных і міжнацыянальных адносін.

Заслугоўвае ўхвалення, напрыклад, стварэнне камісіі па нацыянальных і міжнацыянальных зносінах пры ЦК Кампартыі Латвіі. У рэспубліканскім друку рэгулярна паведамляецца пра планы яе работы, пра тыя пытанні, якія там разглядаюцца. Кожны жыхар рэспублікі мае магчымасць звяртацца ў камісію з прапановамі, заўвагамі па розных праблемах нацыянальных адносін. Падобныя грамадскія фарміраванні створаны і пры ЦК Кампартый Грузіі і Азербайджана, некаторых іншых рэспублік. Назапашаны імі вопыт заслугоўвае вывучэння і распаўсюджання ва ўсіх рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі.

Нам патрэбны глыбокія веды рэальных працэсаў грамадскага жыцця, тэндэнцый і перспектыў развіцця нацыянальных адносін, навыкі арганізацыі інтэрнацыянальнага і патрыятычнага выхавання працоўных. Патрэбна спецыяльная падрыхтоўка ідэалагічных кадраў. Вядзецца ж яна бессістэмна. Па гэтых праблемах выдаецца вельмі мала навуковай, папулярнай, метадычнай і даведачнай літаратуры.

Сёлета, напрыклад, выйшаў з друку статыстычны зборнік «БССР у лічбах, 1986 год». У ім змешчана 137 табліц, якія характарызуюць эканамічнае і культурнае развіццё рэспублікі. Інфармацыя ж па нацыянальнай праблематыцы ўтрымліваецца толькі ў адной далёка няпоўнай табліцы «Нацыянальны склад насельніцтва ў 1979 годзе». У складзе насельніцтва рэспублікі тут адзначана толькі колькасць беларусаў, рускіх, палякаў і яўрэяў, хоць на тэрыторыі Беларусі жывуць грамадзяне 118 нацыянальнасцей. Іншых звестак, якія б раскрывалі тэму «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў жыцці працоўных Савецкай Беларусі», у зборніку няма. Няма іх і ў іншых даведачна-статыстычных выданнях.

XXVII з'езд КПСС, улічваючы шматнацыянальны склад насельніцтва саюзных рэспублік, сфармуляваў палажэнне аб тым, што ўсе нацыянальнасці маюць права на прадстаўніцтва ў партыйных і савецкіх органах пры строгім уліку дзелавых і ідэйна-маральных якасцей кожнага чалавека. Гэта палітычная задача атрымала далейшае развіццё і канкрэтызацыю ў дакладзе М. С. Гарбачова на студзеньскім (1987 г.) Пленуме ЦК КПСС. «Неабход-

Сяргей ЗАКОННІКАЎ



## Айчыне

Адшчыраваў пчаліным звонам ліпень,
І жнівень вырай на крыло падняў...
Жыццё здаецца не такім вялікім,
Як у маленстве некалі ўяўляў.

Не ведаю:
ці доўгі,
ці кароткі
Застаўся мне прамежак для быцця,
Але хацеў бы адысці, як продкі, —
Спакойна,
Лёгка,
З верай у працяг.

Жыцця ніколі не бывае многа,
Так як і праўды —
колькі ні жыві.
І ёсць адна любоў,
Адна трывога:
Айчына — ты і ў думах,
і ў крыві.

Твой жытні хлеб,
Глыток гаючай мовы
І ў вечным сне
не страціць,
не забыць.
Мяне не будзе,
застанецца слова,
Якім хачу заўжды цябе любіць.

Ніхто не абмінае смерці плаху,
Застынуць зоркі і ў маіх вачах...
А ты жыві,
Гадуй дзяцей без страху,
Цярпліва доўжы свой
Праз вечнасць
Шлях.

## Пра надзённае

Узышоў іван-чай на святых папялішчах,
На падмурках сівых — лебяда і палын...
Мы і самі
без ворагаў
многае нішчым,
Забіваючы ў памяць бяспамяцтва клін.

А на клін апускаецца важка, з размаху
Маладога цынізму зацяты абух.
У пагоні за яркай чужой апранахай,
У балдзенні пад «рок»:
Хто аслеп,
Хто аглух.
Мы не бачым таго, каб душой абурыцца,
Што даўно падышлі да апошняй мяжы...
Пад гітарнае трымканне з гікам «турысты»
Валакуць у кастрычча з пагоста крыжы.

Па нямых абеліcках на брацкіх магілах
З ружжаў смаляць прыдуркі — зрабілі
мішэнь.
Узялі мы на ўлік зграю трутняў-дэбілаў,
Узялі, ды не гонім да працы ў каршэнь.

І красуні ў румянах не з неба зляцелі
На гатэльнае лежбішча,
Нашы яны.
Свой народ прадаюць, а не грэшнае цела,
Прадаюць гонар той, што не мае цаны.

Мы не чуем, як плачуць, рыдаюць сіроты
Пры жывых, ды да тла абыдлелых
бацьках.
Ёсць важнейшыя справы, а гэта — на
потым.
Можа, самі ўзбяруцца на правільны
шлях?..

Не, не пройдзе любая памылка
бясследна,
Пустацвет не саспеліць крамяных
пладоў.
Пасяляецца ў душах сляпых адпаведна
Непавага да спадчыны, мовы дзядоў.

Да святога таго, што на глум не аддалі
Продкі ў прорве нясцерпных пакут і
крыві.
А прад намі такая бязмежная далеч:
Ганарыся здабытым, сумленна жыві!

Чым засеюцца памяці гонкія гоні
І які нас чакае ў жыцці паварот?
Я адно толькі ведаю цвёрда сягоння —
Самагубцам не можа быць цэлы народ.

●

Вяртацца на кругі свая...
Такой не звабіш перспектывай
Таго, хто песню салаўя
Усё жыццё цягнуў фальшыва.

Ён не пачуе ноты: «До!»,
Хоць ёсць усё: машына, грошы,
Набітае дабром гняздо
І — натуральна — харч харошы.

Ён зразумеў, як трэба жыць,
Як рай наладзіць з паўсядзённі,—
Крычы з шаленствам на мяжы,
Каб лопаліся перапонкі.

Няважна, што не па плячы
І голас салаўя, і слава.
Галоўнае — мацней крычы,
А як і што — не ў гэтым справа.

Здаецца, зразумелі ўсе
І час прабіў — пара са сцэны.
А ён смяецца: «Пранясе!»
І праўда — зноў усё без змены.

Вяртацца на кругі свая
Яго не сцягнеш і вяроўкай...
Зноў чуцен голас вераб'я,
Хоць аб'явілі, што салоўка.

## Сакрэт

У гэтым ёсць нейкі сакрэт,
Што я завітаў на зямлю,
Змясціў неабачліва свет
У слове адзіным: «Люблю...»



Пад небам бацькаўшчыны. Фотаэцюд Т. ЛУКОЎСКАЙ.

Здаецца, навошта было
Сюды, дзе і подласць, і здзек?
І ўсё ж, як матыль на святло,
Ляціць да жыцця чалавек.

Ляціць, каб пад новай зарой,
Пад назіркам вечнай красы
Разліцца пяшчотай сваёй
На ўсе без астатку часы.

За ўсё, што прайшло да мяне,
За ўсё, што сягоння са мной,
За ўсё, свет чаго не міне,
Плачу я любоўю зямной.

Плачу неразменным рублём —
Жыццём, што даецца адно.
А доўг мой расце з кожным днём,
І плаце канца не відно...

У гэтым ёсць нейкі сакрэт,
Павінен, павінен ён быць,
Каб грэшны і зменлівы свет
Не ведаць чаму, а любіць.

●

Змірыцца з гэтым я не мог
Душой абуранай, мяцежнай —
Пераступіць быцця парог,
І тут жа зведаць непазбежнасць...

У вочы вечнасці глядзець
І памятаць, што ты смяротны...
Якое ж сэрца трэба мець,
Каб жыць спакойна, негаротна?..

Так думаў некалі і зноў
Спяліў запальчыва нязгоду,
Пакуль адмерваць не пайшоў
Кругі зямныя год за годам.

Кругі, дзе радасці святло
Плыве скрозь чорныя гадзіны,
Дзе ворагі — дабро і зло —
Вядуць спрадвечны паядынак.

Я вырастаў з вайны, з бяды,
Таму і сціплыя патрэбы:
Удзячны і глытку вады,
І чэрстваму акрайцу хлеба.

Мо ўсё-ткі крышачку хлушу,
Бо чуйным слыхам, пільным вокам
Гарну,
гарну даўно ў душу
Нятленны скарб красы высокай.
Шкадую, разумею ўсіх:
Вас, людзі,
Дрэва,
Птушку,
Звера.
І хоць мой час — маланкі міг,
Хоць згіну, ды жыццю паверу.

Пад хваляй зорнага дажджу
Каля Сафійкі ці Каложы
У вочы вечнасці гляджу,
Гляджу і позірк не адводжу.

●

Выйду ў чыстае поле адзін,
Адпушчу сваё сэрца на волю.
Хай пабудзе, хоць колькі хвілін
Не стрыножаным рабскаю доляй.

Хай яно, нібы конь, адпачне
Ад аброці і цугляў апрыклых.
Адпушчу, хоць і збэсцяць мяне
За такі неабачлівы прыклад.

Свішча вецер у грыве густой,
Капыты б'юць у бубен абшару.
Над скапычанай пыльнай вярстой
Растаюць і надзеі, і мары.

А калі конь прымчыцца дамоў,
Я адважна яго забрытаю.
Каб ніхто не пачуў нашых змоў,
Паціхеньку на вуха спытаю:

«Дзе ты, косю мой верны, блукаў,
Што любіў апантана, найболей,
Што ў агромністым свеце шукаў?»
— Толькі волю, адзіную волю!..

## Салоўкі

БАЛАДА

Там, дзе вербы ля крыніцы,
Як зялёная падкоўка,
Адкрывала аканіцы
Ранку вёсачка Салоўкі.

Дацямна зямлю арала,
Ад хвароб збірала зёлкі,
На старэнькіх кроснах ткала
Дываны, нібы вясёлкі.

І звычайна вечарамі,
Што прапахлі мёдам, сенам,
Душы ўсе ў адну збірала
Песняй роднай, задуменнай.

Кожны госць людзей распытваў:
«Хто ж так хораша спявае?»
— Бабка Ганна, дзед Мікіта...
Хата трэцяя ад краю...

Час ляцеў для ўсіх няпросты,
І не знойдзеш вінаватых,
Што не стала краю ў вёсцы,
Вёска стала толькі хатай.

Сумна жыць, але патрэбна
Век адмераны адолець.
«Шумяць вербы каля грэблі...» —
Чула неба, чула поле.

Свет, адданасцю сагрэты,
Сам руплівa колас песціў.
Ды прыйшло і тое лета —
У Салоўках змоўклі песні.

На бярвенні ля паркана
Мы сядзім... Красуе жыта...
«Заспявай, бабуля Ганна...»
А ў адказ: «Няма Мікіты...

Ён мяне — кажу праўдзіва —
У руках насіў, як свечку.
Спадзявалася на дзіва —
Будзе спевам цешыць вечна.

Хай не чуе боль сірочы
Свеце ясны, свеце белы.
Як закрыла дзеду вочы,
І сама тады знямела...»

Я праз два гады наведаў
Кут, які душу трывожыў.
Поле скрозь... Няма і следу
Ад Саловак тых прыгожых.

Не вітаюць вербы госця
І не шчодрыцца крыніца...
Пад чаромхай на пагосце
Шэры груд сырой зямліцы.

Галавою да галоўкі
Бабка з дзедам тут вякуе...
І пяюць, пяюць салоўкі,
Толькі іх ніхто не чуе.

●

Асенняя шчымлівая дарога,
І ты — неспадзяванкай незямной.
Я пра цябе не ведаю нічога...
Пабудзь са мной.

Пабудзь са мной...
Не я шапчу, а лісце,
Што шаргаціць у сутані лясной.
Было вясёлым і яно калісьці...
Пабудзь са мной.

Якая далеч мгліцца за плячамі,
Якая высь над першай сівізной!
А мы ніколі гэтак не маўчалі...
Пабудзь са мной.

Нішто мяне не ўсцешыць і не здзівіць,
Ты будзеш самай лепшай навіной.
Вачэй тваіх адтайваюць ільдзінкі...
Пабудзь са мной.

Чым станем потым мы ў вялікім свеце:
Зямлёй,
Травой
Ці зоркаю скразной?
Прамень надзеі не згасае, свеціць...
Пабудзь са мной,
Пабудзь са мной...

## Над полем вечнага чарнавіка

Даўно стамілася рука,
А думкі просяцца на волю.
Над полем вечнага чарнавіка
Узносіцца світанне болю.

Пакуль душу не збіў разлад,
Пакуль ёсць кропля нейкай сілы,
Хутчэй туды — за далягляд,
За аблачынкай лёгкакрылай.

Свабодны ад пустых надзей,
Ад беспрытульнага чакання,
Адчуў, што толькі гэты дзень
Усё мне высвеціць дазвання.

Ён шлях падказвае пяру,
Бязлітасна паперу крэсліць...
Я сто разоў яшчэ згару,
Ды на сто першым уваскрэсну,

Каб славіць
і прымус,
і волю
Світання радаснага болю,
Пакуль не спыніцца рука
Над полем вечнага чарнавіка.

●

Ніколі гэты свет не дакарай,
Хоць ён, магчыма, і пакрыўдзіў нечым.
Світанне цалавала неба край,
Шугае дзень, а потым будзе вечар.

Апошнім промнем стомлена зара
Асвятліць неўміручы твар прыроды,
І ты адчуеш, што прыйшла пара
Развітвацца з усім і назаўсёды...

Зязюля змоўкла... На зыходзе час,
І немагчыма шлях пачаць нанова.
Развітвайся без помслівых абраз,
А толькі ўдзячным позіркам ці словам.

Развітвайся з птушынай чарадой,
З крыніцай, што пад вербамі бруіцца,
З былою весялосцю і з бядой,
Каб потым з імі непрыкметна зліцца.

Яшчэ адно, што давядзецца тут
Адчуць у хвілю гэтага яднання,—
Нібы пясчынка, груз жывых пакут
Прад тым цяжарам вечнага маўчання.

# На скрыжаванні ЧАСОЎ

**Эсфір ГУРЭВІЧ**

АДЧУВАЮ унутранае пабуджэнне ўключыцца ў тую гаворку, што пачалася на старонках «ЛіМа» артыкуламі А. Бадака, С. Кавалёва, М. Яфімавай, Я. Каршуковa, З. Мельнікавай, у якіх прагучала занепакоенасць станам дзіцячай літаратуры і крытыкі. Тым больш, што гаворка такая ў нас даволі рэдкая, спарадычная. Звычайна дзіцячая літаратура выпадае з размоў пра агульналітаратурны працэс, мы, відаць, вельмі баімся парушыць яе аўтаномію, а ў выніку наша ўяўленне пра літаратуру *ў цэлым* крыўдна звужаецца, збядняецца.

У артыкулах памянёных аўтараў узнімаліся галоўным чынам канкрэтныя пытанні: аб заніжаных крытэрыях у паэзіі для маленькіх, аб развіцці казачнага жанру, аб узроўні паэтычных твораў, апублікаваных у дзіцячай перыёдыцы. Мне хацелася б выказаць спачатку больш агульны погляд на праблему, які вынікае з гістарычнага моманту, што перажывае наша краіна сёння, каб потым перайсці да канкрэтнай размовы пра асобныя літаратурныя з'явы апошняга часу.

Я не памылюся, здаецца, калі скажу, што дзіцячая літаратура—бадай што самая «балючая кропка» ў нашым агульналітаратурным працэсе і што набалелыя яе праблемы можна вырашыць толькі глыбока ўсведамляючы агульнадзяржаўную важнасць задач выхавання юнага пакалення і, значыць, развіцця літаратуры, прызначанай яму.

Думаецца, што *застойныя* з'явы ў грамадстве «па ведамстве» дзіцячай літаратуры і крытыкі (я маю на ўвазе іх паўсядзённы ўзровень) выявіліся досыць выразна. Гэта перш за ўсё—аблегчаны падыход да жыцця, які практычна *ўкараніўся ў большасці* мастацкіх твораў, калі малюецца свет не сапраўдны, поўны жывых супярэчнасцей і складанасцей, а штучна сканструяваны, надуманы, пазбаўлены рэальнага напружання і дыялектыкі жыцця, калі размова з юным чытачом вядзецца адаптаваная, у адрыве ад надзённых жыццёвых праблем, ігнаруючы вострыя канфлікты і драматычныя калізіі; гэта — шматлікія «табу», якія вельмі часта накладваюцца на дзіцячую літаратуру і абмяжоўваюць, рэгламентуюць паўнату яе праўды; гэта — заніжаныя крытэрыі, з якімі прынята падыходзіць не толькі да паэзіі, што слушна заначыў А. Бадак, але і да ацэнкі твораў дзіцячай літаратуры наогул. Па сутнасці склаўся цэлы комплекс безнадзейна застарэлых, але—парадаксальна — досыць жывучых памылковых думак, якія вынікаюць у першую чаргу з недаверу да дзіцяці, да яго здольнасці спасцігаць жыццё, з неабгрунтаванага ўяўлення аб быццам бы ніжэйшым узроўні ўспрымання дзецьмі мастацтва. Падобную недаацэнку духоўных магчымасцей дзіцяці развенчваў яшчэ М. Чарнышэўскі: «Мы думаем, што дзіцячы розум слабы, што дзіцячы розум непранікілівы; о, не, наадварот, ён толькі нявопытны, але, паверце, вельмі востры і пранікілівы. Бо навучаецца ж дванаццацігадовы хлопчык разумець алгебраічную адцягненасць, якую і даросламу не кожнаму растлумачыш».

Недавер да дзіцяці абарочваецца на практыцы парушэннем прынцыпаў народнай этыкі, адвечнай народнай маралі, па якой дзеці не адгароджваліся ад трывог і клопатаў дарослых, што натуральна і падрыхтоўвае іх да самастойнага жыцця.

Ёсць, на наш погляд, яшчэ адна важная прычына рэгламентацыі і забарон у дзіцячай літаратуры: жыве памылковае ўяўленне, быццам бы кнігі, літаратура аказваюць прамое, непасрэднае ўздзеянне на юнага чытача, бо ён, як вядома, адрозніваецца больш моцным пачуццём суперажывання і здольнасцю да пераймання, і таму, значыць, існуе рэальная пагроза пераймання ім як станоўчага, так і адмоўнага. *Такая думка рэалізуецца* часам і ў саміх творах. Вось, напрыклад, апавяданне У. Шкаброва «Як далёка той бераг» («Бярозка», 1985, № 2). У ім настаўнік чытае вучням аповесць пра подзвіг разведчыка Петракова. Карціны таго, як Петракоў з апошніх сіл пераадольвае ледзяную ваду, пераплываючы на другі бераг да сваіх, за дапамогай, урэзаліся так моцна ў свядомасць хлопчыка, што той вырашыў выпрабаваць самога сябе: ці зможа ён сам пераплысці на другі, даволі далёкі бераг ракі? Рэакцыя ўвогуле досыць верагодная. Але як яна тлумачыцца далей? Хлопчык плыве, а аўтар у кожную цяжкую для героя хвіліну згадвае ў яго памяці адпаведныя кавалкі тэксту з аповесці пра разведчыка: крок наперад—і тут жа літаратурная асацыяцыя, якая быццам бы непасрэдна правакуе паводзіны хлопчыка. Паралелізм атрымліваецца просталінейны, ілюстрацыйны. Механізм уздзеяння мастацкага твора на чытача відавочна спрашчаецца.

Пры ўсёй спецыфічнасці літаратуры для дзяцей мераць яе трэба па агульных законах мастацтва, і таму патрабаванне праўды, якое ў дачыненні да літаратуры наогул востра прагучала на XXVII з'ездзе КПСС, для яе ў такой жа ступені актуальнае. Ды і ці можа быць інакш, калі яна, праўда, складае сутнасць сапраўднага мастацтва?

Паўпраўдай не выхаваць сапраўднага чалавека, не навучыць яго змагацца са злом і несправядлівасцю. Адаптацыя жыцця—гэта, па сутнасці, падман, да якога літаратура (разумеецца, дрэнная) прывучае чытача з дзяцінства і за які потым даводзіцца *расплачвацца* дарагой цаною. Разумна заўважыў на гэты конт М. Дабралюбаў: «Цвярозая педагогіка гаворыць, што нічога не можа быць горш замоўчванняў і прыкрыццяў».

Прадбачу, аднак, асцярогі апанентаў: ці не выклічам мы ў такім выпадку «ненатуральнага, несвоечасовага развіцця духу» ў дзіцяці (паводле Бялінскага), калі яно сумна ператвараецца ў мудрага дзядка? Відаць, пагроза такая сапраўды існуе. Але, з другога боку, калі аўтар прысядае на кукішкі, сюсюкае, унікае сур'ёзнай размовы? Што тады? Тады ўзнікае іншая небяспека—выхаваць інфантыльнасць і празмерную запозненую наіўнасць. Дзіцячай літаратуры і даводзіцца пастаянна трымаць свой шлях паміж гэтымі падводнымі рыфамі, паміж Сцылай і Харыбдай. Такая ў яе спецыфіка, якая ў шмат разоў ускладняе працу дзіцячага пісьменніка. Такая ў яе дыялектыка.

Усе гэтыя развагі, якія могуць некаму здацца агульным і неабавязковым ухілам у тэорыю, тым не менш вельмі патрэбны для канкрэтнай размовы пра літаратурны працэс, якую нельга весці без уразумення зыходных пазіцый, прынцыповых патрабаванняў і крытэрыяў у ацэнцы як кніг аб сучаснасці, так і літаратуры пра мінулае.

Наша сённяшняя размова прысвечана кнігам аб Вялікай Айчыннай вайне. У думках увесь час вяртаешся да той суровай і драматычнай пары, або перажытае тады — на ўсё астатняе жыццё. Да таго ж, асэнсоўваючы сучаснасць і тыя наспелыя перамены ў грамадстве, што адбываюцца сёння, знаходзіш у мінулым важкія павучальныя ўрокі — урокі гераізму і мужнасці, сумленнасці і вышэйшай справядлівасці, дабрыні і спачування, усяго таго, што так патрэбна людзям у іх паўсядзённым мірным жыцці.

Наколькі моцны ў кнігах беларускіх дзіцячых пісьменнікаў аб вайне голас праўды, гераічнай і трагічнай адначасова? Як павернуты яны да сённяшняга дня, яго клопатаў і трывог? Натуральна ўзнікае пры гэтым і такое пытанне: ці адбіваецца ўплыў «дарослай» літаратуры аб вайне на стане, узроўні дзіцячай? Зразумела, нельга гаварыць аб непасрэднай суаднесенасці ўзроўняў — яны розныя, але відавочна, што дзіцячая літаратура не можа не адчуваць за сваімі плячыма мастацкай сілы сваёй «старэйшай сястры». Гэта для яе—тая вышыня, да якой трэба цягнуцца, і адначасова — фундамент мастацкага вопыту, на які можна абаперціся. Тым больш, што ў вопыце гэтым ёсць творы, якія можна разглядаць як свайго роду злучальныя масток паміж той і другой літаратурай. Я маю на ўвазе перш за ўсё аповесці аб ваенным дзяцінстве В. Казько «Высакосны год», «Аповесць аб беспрытульным каханні», «Суд у Слабадзе».

Унутраная пераклічка асобных твораў дзвюх «сясцёр» часам досыць адчувальная. Дастаткова ўспомніць творы І. Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага» і «Мы—хлопцы жывучыя». Можна назваць і іншыя пісьменніцкія ўдачы—апавяданні і аповесці пра вайну І. Навуменкі, В. Хомчанкі, І. Чыгрынава, А. Кудраўца, У. Паўлава, В. Тараса, А. Кобец-Філімонавай, Г. Васілеўскай, У. Ліпскага...

Але сёння важней, відаць, сканцэнтраваць увагу не столькі на ўдачах, колькі на асобных, найбольш цяжкіх для беларускай літаратуры ідэйна-мастацкіх праблемах, якія ў той ці іншай ступені датычацца ўсёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры для дзяцей. Трэба ўлічыць пры гэтым, што юны сучаснік, да якога звернуты кнігі пра вайну, аддзелены ад яе больш як чатырма дзесяцігоддзямі і што яму цяжка ўявіць сабе рэальнасць таго часу ва ўсёй канкрэтыцы і праўдзе.

Відаць, не выкліча пярэчанняў сцвярджэнне, што юны чытач—дзіця, падлетак, юнак—мае патрэбу ў тым, каб яму ў першую чаргу раскрывалі высокі гуманістычны сэнс падзей, сацыяльную і псіхалагічную прыроду подзвігу, паказвалі тыя бакі вайны, якія ўзвышаюць душу чалавека, тое лепшае, што адкрылася ў ім у гады цяжкіх выпрабаванняў. Таму, узнаўляючы суровую праўду ваеннай рэальнасці (а гэта патрабаванне безумоўнае, пра якое гаварылася не раз), дзіцячая літаратура павінна клапаціцца пра тое, каб весці чытача да пераадолення зла, жорсткасці і бесчалавечнасці, да спачування, суперажывання і маральнага ачышчэння. Тут больш, чым у літаратуры «дарослай», узнікае патрэба ў катарсісу, роля якога—прынасіць чытачу, які акунаецца ў крывавую атмасферу вайны, маральнае ачышчэнне і ўзрушэнне. Без гэтага цяжка выхаваць высокую чалавечнасць, міласэрнасць, справядлівасць, якія накрэслены на сцягу сацыялістычнага грамадства вось ужо 70 год, але нястачу якіх мы нярэдка адчуваем, сустракаючыся з фактамі страшэннай, так званай нематываванай, незразумелай нам жорсткасці і дзяцей, і дарослых.

Мы лічым прынцыпова важным падкрэсліць тут, што вучыць гераізму—значыць адначасова вучыць і гуманізму, што жорсткасць вайны не павінна рабіць жорсткімі дзіцячыя сэрцы. І гэта з бескампраміснай праўдзівасцю і болем паказана ў апавяданні І. Пташнікава «Эфка».

Чытаючы такія кнігі, юны чытач павінен адчуць, якое гэта ненатуральнае, дысгарманічнае, трагічнае становішча—вайна, калі ліецца кроў людская, калі ўвесь свет робіцца няўстойлівым, хісткім, калі людзі, у тым ліку і дзеці, абараняючыся, вымушаны па закону вышэйшай справядлівасці ўзяць у рукі зброю і насуперак сваёй існасці забіваць. «Чуж-чужаніца»—вось што такое вайна,—трапна вызначыў У. Паўлаў, вылучыўшы перад усім пачуццё адчужэння, якое яна сваёй жорсткасцю павінна выклікаць у нармальнага чалавека. І калі пры чытанні кнігі аб вайне такога адчування не ўзнікае, калі ў творы трагізм сітуацыі з удзелам дзяцей цалкам паглынаецца ракурсам гераічным, афарбаваным у адны толькі ружова-аптымістычныя фарбы, калі не паказана няўмольная логіка абставін, што вымагаюць дзіцячага гераізму, калі на першым плане неверагодныя прыгоды, якія ператвараюць вайну ў гульню, калі, нарэшце, не паказана, як адбіваецца на душах дзяцей дакрананне да крыві і смерці,—значыць, сапраўдная праўда пра вайну не сказана.

Даводзіцца са шкадаваннем прызнаць, што ў грамадскую і мастацкую свядомасць гэтыя «калі» не ўвайшлі яшчэ як маральнае крэда і што напал гуманістычнага пачуцця аўтараў не заўсёды дастаткова высокі. Нярэдка на старонках кніг вайна прадстае як ланцуг захапляючых прыгод, за якімі знікае ўнутраны драматызм падзей (як, напрыклад, у аповесці «Шумеў Нягневіцкі лес» Я. Курто).

Выключная значнасць ідэйна-маральнай выхаваўчай нагрузкі, якую нясуць кнігі аб Вялікай Айчыннай вайне, прымушаюць нас з асаблівай патрабавальнасцю падыходзіць да прыгодніцкіх кніг на гэтую тэму, бо сам прыгодніцкі жанр, калі ставіцца да яго як да «лёгкага» і «вясёлага», што вельмі часта і здараецца на практыцы, хавае ў сабе патэнцыяльную пагрозу таго, што суровая ваенная рэчаіснасць можа страціць свае рэальныя абрысы і паўстане як падзея прываблівая, захапляючая. Але ж ці таго мы павінны дамагацца?

Справа не ў тым, што прыгодніцкая стылістыка быццам бы ў прынцыпе супрацьпаказана ваеннай тэме. Згадаем, а якімі неверагоднымі, на мяжы фантастычнага, «прыгодамі»-выпрабаваннямі напоўнена аповесць «Начавала хмарка залатая» А. Прыстаўкіна! Драматызм тут дасягае вышэйшага, катарсіснага напружання. Павучальны ў гэтым сэнсе вопыт звароту да гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы ў савецкай прозе 20—30-х гг., у тым ліку і беларускай. Прыгадаем «Чырвоных д'ябалят» П. Бляхіна, «Макара-следапыта» Л. Астравумава, «Ваўчанят» А. Александровіча, А. Вольнага, А. Дудара, «Свінапаса» М. Чарота.

Ці заўсёды ў творах беларускіх пісьменнікаў прыгодніцкі сюжэт падмацаваны паўнаважкім псіхалагічным аналізам і служыць праўдзе адлюстравання падзей вайны? Відаць, тут можна гаварыць і аб удачах, і аб праліках. Звернемся да твораў, выдадзеных у самыя апошнія гады.

Прыгодніцкую аповесць «Пяцёрка адважных» адрасаваў дзецям А. Асіпенка, «дарослыя» творы якога заўсёды выклікаюць жывую цікавасць і спрэчкі. Аўтар добра валодае сакрэтам прыгодніцкага сюжэтабудавання, і падзеі ў аповесці разгортваюцца вельмі імкліва. Героі-падлеткі—адчайныя, рызыкоўныя, вынаходлівыя — без ведама дарослых ствараюць сваю аўтаномную партызанскую групу і ўключаюцца ў барацьбу, як у гульню. У якія б небяспечныя сітуацыі ні трапілі героі адважнай пяцёркі, ім заўсёды спадарожнічаюць удача, шчаслівы выпадак, што прыносіць уратаванне. Аўтар, канечне, разумее, што «гульня», распачатая падлеткамі, смяротна небяспечная, і вуснамі дарослага чалавека, выратаванага членам пяцёркі, выказвае сваё хваляванне і неспакой. «Гэта не проста гульня ў вайну,—гаворыць ён, калі юныя героі спрабуюць зрабіць гадзіннікавую міну.—Гэта сама вайна, страшная, бязлітасная». І далей: «Вайна—не забава. А вы—не дарослыя, а дзеці». Справядлівыя словы перасцярогі, якіх чакаеш, але якія, аднак, слаба стасуюцца з *прапанаванай аўтарам логікай* мастацкага дзеяння, якое развіваецца па раз і назаўсёды зададзенай траекторыі перамог (ніводнага збою!) і заканчваецца выратавальным «хэпі эндам»: у фінале адбываецца шчаслівая сустрэча юных змагароў з партызанамі.

Мушу прызнацца: разумеючы прыгодніцкую прыроду аповесці і ўсе звязаныя з гэтым асаблівасці, не магу тым не менш пазбавіцца пытання, якое мяне хвалюе,—ці не ўступае ў дадзеным выпадку няўхільнае прытрымліванне законаў жанру ў супярэчнасць з самім матэрыялам, напружана драматычным па сваёй сутнасці? І наогул, наколькі неабмежаваная свабода самога жанру, наколькі непарушныя яго прадпісанні? На наш погляд, жанр — форма рухомая, і ў прыгодніцкіх творах існуюць усё ж пэўныя, няхай выразна і неакрэсленыя, межы, выхад за якія можа прывесці да страты рэалістычнай верагоднасці. Не пагаджаюся з меркаваннем А. Марціновіча, выказаным у рэцэнзіі на аповесць («ЛіМ»,

(Заканчэнне на стар. 6—7).

МЕРЫДЫЯНЫ ДРУЖБЫ



На сустрэчы ў Доме літаратара выступае Н. Гілевіч. Фота Ю. ЗАХАРАВА.

# У БАРАЦЬБЕ І ТВОРЧАСЦІ—ПОПЛЕЧ

Як паведамлялася ў «ЛіМе», на беларускай зямлі адбылася творчая сустрэча савецкіх і польскіх пісьменнікаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, якія працягваюць актыўна працаваць над творамі, прысвечанымі баявому братэрству народаў СССР і ПНР у гады барацьбы супраць гітлераўскай Германіі, а таксама супрацоўніцтву ў мірны час. Такія сустрэчы наладжваюцца традыцыйна: адзін год на савецкай зямлі, наступны — на польскай. Пад час сустрэчы ў 1983 годзе маршруты праходзілі праз абедзве краіны. Ініцыятар гэтых сустрэч — ваенна-шэфская камісія СП СССР і камісія па сувязях з войскам Саюза польскіх пісьменнікаў.

У дванаццатай сустрэчы, што адбывалася 22—26 ліпеня, у складзе польскай дэлегацыі былі літаратары Марыян Рэняк-Стружыньскі, Эдвард Куроўскі, Чэслаў Чарняўскі, Генрык Гаворскі, Марыян Папёлак, Анджэй Пшыпкоўскі, Казімеж Пшытоцкі, Тадэвуш Ургач, Сатурніна Вадэцка і супрацоўніца замежнай камісіі Галоўнага праўлення Саюза польскіх пісьменнікаў Катажына Казімерчак. Савецкую дэлегацыю прадстаўлялі Юрый Тарскі, Алег Смірноў, Міхаіл Барысаў, Юрый Дзяніцкі, Барыс Дубровін, Васілій Емяльяненка, Міхаіл Ігнатаў, Уладзімір Рыбін, Аляксей Смольнікаў, Аляксей Шалімаў.

Цяжка вызначыць, што было самым галоўным і самым цікавым у гэтай сустрэчы. Здаецца, усё цікавае і важнае. Таму пачну па парадку.

Вельмі ўзрушыла гасцей, ды і ўсіх, хто прысутнічаў, урачыстая цырымонія ўскладання кветак да манумента Перамогі — помніка загінуўшым воінам і партызанам.

Тэме «Братэрства па духу, братэрства па зброі» быў прысвечаны «круглы стол», які адбыўся ў Доме літаратара. Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч, пачынаючы размову, сказаў, што нашы народы, нас, савецкіх і польскіх пісьменнікаў, парадніла перш за ўсё агульная барацьба з фашызмам. І цяпер мы не можам абмяжоўвацца канстатацыяй гэтага братэрства. Мы абавязаны гаварыць пра задачы вялікія і важныя, што стаяць перад намі сёння. Пакуль што, працягваў Н. Гілевіч, у нас недастаткова ўзаемных перакладаў. З горыччу мы ўспрынялі вестку, што не стала нашых добрых сяброў, актыўных перакладчыкаў беларускай літаратуры на польскую мову Яна Гушчы, Мацея Юзафа Кановіча, Ігара Сікірыцкага. Спадзяёмся, што да справы папулярызацыі нашых твораў у Польшчы далучацца маладзейшыя літаратары. Н. Гілевіч гаварыў і аб неабходнасці палепшыць узаемную інфармацыю як паміж ваеннымі камісіямі СП СССР і Саюза польскіх пісьменнікаў, так і паміж самімі літаратарамі нашых краін.

Кіраўнікі савецкіх і польскіх дэлегацый Ю. Тарскі і М. Рэняк-Стружыньскі расказалі аб рабоце камісій, пра ўклад, які яны ўносяць у савецка-польскае братэрства. З абодвух бакоў асабліва падкрэслівалася, што падобныя сустрэчы і кантакты не спыняліся і ў часы, калі ўзнялі галовы контррэвалюцыйныя сілы ў Польшчы. Рэняк-Стружыньскі падзяліўся ўражаннямі аб наведванні нашай рэспублікі:

**— У нас моцна забіліся сэрцы, як мы ступілі на зямлю Беларусі. Калі я прыехаў у Хатынь, я адчуў сябе так, як адчуваў нядаўна пад Керчу ў каменаломнях, дзе загінула трынаццаць тысяч савецкіх салдат. Памяць пра вайну — гэта своеасаблівая рэлігія беларускага народа. Памяць пра вайну — гэта і рэлігія польскага народа. Агонь у Хатыні — гэта сімвал трагічнай праўды, якую мы імкнёмся перадаць моладзі, што не зведала вайны. Цяпер ва ўсім свеце гавораць пра перабудову, якая ідзе ў Савецкім Саюзе, пра галоснасць. Гэты вопыт мы павінны скарыстаць і ў дачыненні да паказу мінулай вайны, мы павінны гаварыць глыбей і паўней.**

Гэтую думку польскага калегі, аўтара многіх кніг аб вайне, у тым ліку дэтэктыва-бестселера «Адзін сярод чужых», працягнуў вядомы рускі празаік Алег Смірноў:

**— Беларускія сябры падарылі кожнаму з нас новае выданне «Абеліска» Васіля Быкава. Прыгадваю, як у свой час аповесць з'явілася ў «Новом мире» — я тады працаваў у часопісе. Гэта было адкрыццё новай тэмы. А колькі яшчэ неадкрытых тэм. І нават многае з таго, што напісана, варта цяпер перапісаць нанова, паглыбіць. Час спрыяе такой працы.**

Анджэй Пшыпкоўскі ў маладыя гады ўдзельнічаў у антыгітлераўскім падполлі. І таму з поўным правам ён мог сказаць:

**— Мы зрабілі некаторыя вывады. Польшча ўжо ніколі не будзе дзяржавай, кінутай пад удары ворага. Дружба з Савецкім Саюзам дае нам пачуццё бяспекі, упэўненасці ў сваім ладзе. Я з вялікім гонарам гавару, што ў нашых узаемаадносінах няма белых плям. А з другога боку, прыйшоў час, калі мы можам гаварыць шчыра пра розныя далікатныя рэчы ў нашай агульнай гісторыі... У 1980—1983 гадах праца нашых камісій была тым звяном, якое ажыццяўляла кантакты паміж СП СССР і Саюзам польскіх пісьменнікаў. І калі вы ў той напружаны час прыязджалі да нас, мы гаварылі пра наша братэрства.**

**Польская кніга, працягваў далей А. Пшыпкоўскі, перажывае крызіс. Выходзяць паўмільённымі тыражамі розныя сонгнікі, мільённымі — гараскопы. На гэтым зарабляюць вялікія грошы, а духоўнай аддачы няма ніякай. У людзей пачынае знікаць жаданне мець хатнія бібліятэкі. Наша сітуацыя з кнігай вельмі цяжкая. І мы хацелі б абапірацца на ваш вопыт.**

Пісьменнік-фантаст з Ленінграда А. Шалімаў сказаў:

**— Я ўжо трэці раз удзельнічаю ў такіх савецка-польскіх сустрэчах. З кожным годам значнасць іх узрастае. Частка ветэранаў адыходзіць у нябыт. Узрастае роля літаратуры аб вайне і міру, яна ўсё актыўней змагаецца за мір. Чарнобыль паказаў, што адразу, на пачатку вайны, атамныя электрастанцыі могуць стаць аб'ектам ваенных удараў. Радыяцыя, хімічнае заражэнне прывядуць да агоніі гарады. Трагедыя Ленінграда ў мінулай вайне будзе памножана ў некалькі разоў. А скарыстанне тэрмаядзернай зброі! У выніку жыццё на планеце будзе зусім спынена. Нядаўна ў Ерэване прайшоў сімпозіум, тэма якога — устанаўленне кантактаў з іншапланецянамі. Аўтары сімпозіума прыйшлі да высновы: ёсць тэхналагічны парог, які перажывае кожная цывілізацыя (праўда, частка ўдзельнікаў сімпозіума з гіпотэзай не згадзілася). Была выказана думка, што мы таксама падыходзім да такога парога. Савецкая фантастыка, як і ваенная літаратура, выконвае задачу папярэджання. Фантастыка ленінградскай школы — антываенная, антыфашысцкая. Чаму я не пішу рэалістычныя творы пра вайну, а пішу фантастыку, хоць я ўдзельнічаў у ваенных падзеях? Я лічу, што метадамі фантастыкі можна плённа ўдзельнічаць у задачы папярэджання. Выконвае савецкая фантастыка і другую задачу — выратаванне біясферы. У заключэнне дазвольце прыгадаць выпадак з вайны. Адразу, як толькі была вызвалена Варшава, я праязджаў праз яе прыгарад Прагу поездам. Насупраць мяне сядзеў польскі афіцэр, глядзеў на разбураны горад і шаптаў: «Място улюбёнэ, Варшава моя!» У гэты момант я зразумеў, што сталіца Польшчы будзе адноўлена. Дык будзем жа змагацца за тое, каб больш не ведаць разбурэнняў вайны, каб не спынілася жыццё на зямлі. Наша слова павінна клікаць да справы.**

Празаік, генерал-маёр авіяцыі Анатоль Сульянаў закрануў некаторыя аспекты творчай лабараторыі пісьменніка, які піша аб сучаснай арміі.

**— Чаму некаторыя пішуць слабыя творы пра сучасную армію?— працягваў ён.— Адны ведаюць армію, а не ведаюць чалавека, другія ведаюць чалавека, а не ведаюць арміі. Помню, у час сустрэчы з Канстанцінам Сіманавым я спытаў яго, чаму ён не піша пра сучасную армію. «А я яе не ведаю, — адказаў пісьменнік. — Я пішу пра тое, што бачыў, што перажыў сам на вайне». Паводле кніг ствараецца ўражанне, што ў нашай сучаснай арміі няма канфліктаў. А гэта не так. Калі Васілій Емяльяненка ў часе вайны лётаў у Крым на У-2 — на самалёце было ўсяго пяць прыбораў, а калі я лётаў — іх было ўжо трыста. Бывае, што і ў мірны час нясём мы ў арміі людскія страты. Многае залежыць ад прафесійнай культуры афіцэра. Нядаўна я сустрэў лейтэнанта-лётчыка, малады зусім, а паспеў ужо сабраць бібліятэку з 250 кніг — ваенныя мемуары, творы Быкава, Бакланава, Емяльяненкі.**

Паэт і празаік, удзельнік Варшаўскага паўстання Г. Гаворскі пагаджаецца з папярэднім прамоўцам:

**— Я бачу, што ў асноўным праблемы ў вас і ў нас тыя ж.**

Паэт Б. Дубровін прапанаваў выдаць кнігу, у якую ўвайшлі б матэрыялы сустрэчы. А. Смольнікаў, са свайго боку, выказаў пажаданне, каб выдаваць сумесны савецка-польскі альманах на ваенную тэму.

Марыян Рэняк-Стружыньскі:

**— Мы маем матэрыялы пра ваша знаходжанне ў Варшаве, запісы вашых выступленняў, і мы карыстаемся імі. Польская прэса пісала пра нашы сустрэчы. Думаю, што і беларуская прэса напіша пра гэтую сустрэчу. У мінулым годзе мы з савецкімі пісьменнікамі прайшлі па Польшчы дарогамі войск маршала Конева. Мы вам вышлем публікацыі аб гэтай паездцы. А вы прышліце тыя, што ў вас напішуць пра дадзенае мерапрыемства. Мы, дарэчы, нямала робім праз газету «Nike», якую выдае наша камісія.**

Удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці, пісьменнік Алесь Махнач нагадаў, што лодзінскія і мінскія выдаўцы выпусцілі кнігу нарысаў «Малыя героі вялікай вайны», якую напісалі польскія і савецкія аўтары.

Леанід Прокша, старшыня ваенна-шэфскай камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі:

**— Наша камісія рыхтуе да выдання кнігу матэрыялаў пра пісьменнікаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.**

Юрый Дзяніцкі, празаік:

**— *Вельмі важна выдаць кнігу* пра гэтую сустрэчу, ці лепш пра ўсе сустрэчы. Член нашай дэлегацыі Міхаіл Ігнатаў мае адзінаццаць польскіх узнагарод. Мая рота штурмавала Асвенцім, мы вызвалілі з канцлагера пісьменніка Бартнікоўскага. Матэрыялы пра ўсё гэта і ўвайшлі б у кнігу.**

Ніл Гілевіч, падводзячы вынікі сімпозіума, зазначыў:

**— З прыемнасцю мы пачулі тут, што камісія па сувязях з войскам Саюза польскіх пісьменнікаў выпускае сваю газету. А дзе сумесныя выданні, якія належалі б абодвум камісіям? Патрэбен такі савецка-польскі часопіс. Вопыт такіх выданняў ужо ёсць — выхо-**

# НА СКРЫЖАВАННІ ЧАСОЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

20.XII.85 г.), што законы прыгодніцкага жанру «дазваляюць» бясконцую ўладу шчаслівых выпадковасцей і што ў дадзеным выпадку «пісьменнік псіхалагічнай заглыбленасцю ў падзеі, учынкі герояў пераконвае: так было на самай справе». Па-першае, для прыгодніцкіх твораў пытанне аб жыццепадобнасці не паўстае наогул, бо тут дзейнічаюць законы ўмоўнасці. Па-другое, узнікае сумненне: ці не прыглушаюцца ўра-пераможнай логікай дзеяння, якое, дарэчы, характэрна для многіх аповесцей пра вайну, суровасць і трагічнасць тых векапомных дзён, а, значыцца, і гуманістычны напал твораў?

На вострым дынамічным сюжэце пабудаваны аповесці М. Гамолкі «Лясная крэпасць» (1980) і «Сакалы-сакаляняты» (1987). Абедзве яны з'арыентаваны на дзіцячы подзвіг, што здзяйсняецца ў выключных, экстрэмальных абставінах, і на ім галоўным чынам і сфакусіравана ўсё апавяданне. Прыгодніцкі сюжэт тут падпарадкаваны аўтарскай задуме—паказаць драматызм барацьбы з фашызмам, у працэсе якой героі праходзяць жорсткае выпрабаванне на сталасць, мужнасць, чалавечнасць. Праўда, у першай аповесці адчуваецца часам, асабліва бліжэй да фіналу, перагружанасць сюжэтнага дзеяння.

У новай аповесці—мы рады гэта адзначыць—пісьменнік робіць крок наперад. І заўважаецца гэта перш за ўсё ў паглыбленні аўтарскай канцэпцыі. Пісьменніка цікавіць не толькі сам подзвіг, але і яго вытокі, тыя ўстойлівыя асновы народнага жыцця, якія прадвызначылі ў значнай ступені перамогу над ворагам. Адсюль вынікае і ўвага аўтара да рэалій вясковага жыцця, быту. Такая тэндэнцыя—у рэчышчы традыцыі нацыянальнай літаратуры. З другога боку, перапляценне рэальнага і ўмоўнага, будзённага і выключнага пашырае магчымасці прыгодніцкага жанру.

Да крыніцы сілы народнай аўтар падключае і прыроду: яна супрацьстаіць вайне, жорсткасці, разбурэнню, і адчуванне жывой сувязі з ёю напаўняе сэрцы герояў рашучасцю і надзеяй. Сімвалічны вобраз бусла, скразны ў аповесці, у фінале бярэ на сябе ролю выразніка аптымістычнай ідэі твора. У няроўнай барацьбе з фашыстамі гінуць усе абаронцы Жураўлінага вострава, у тым ліку і юны Ціток, і толькі бусел, лёгкі, як воблачка, падымаецца к сонцу.

Гаворачы пра мастацкую рэалізацыю аўтарскай канцэпцыі, пра ступень дасканаласці ўвасаблення задумы, нельга, аднак, закрываць вочы і на слабасці аповесці: відавочна злоўжывае пісьменнік «прыгажосцямі» ў апісанні прыроды; адчуваецца ненатуральнасць унутранага маналога, які часцей за ўсё нагадвае слова напісанае, але дзеля справядлівасці трэба зазначыць: невысокі ўзровень псіхалагічнага аналізу — недахоп, бачны ў аповесцях М. Гамолкі, — досыць істотны для беларускай дзіцячай літаратуры ў цэлым.

Прыкметны ён і ў такім шырока распаўсюджаным у нас жанры, як дакументальная аповесць. Свой погляд на гэты жанр нам ужо даводзілася выказваць на старонках «ЛіМа». Тут толькі спынімся на некаторых творах самага апошняга часу, каб пабачыць, як у іх пераадольваюцца цяжкасці жанру, што ўзнікаюць на перакрыжаванні дакумента і мастацкасці.

Дакументальная аповесць «Браніслава» (1985) С. Панізніка працягвае, можна сказаць, кнігу «Я з вогненнай вёскі...». Яна расказвае пра тое, што было з людзьмі, якія засталіся жывымі «пасля вогненных вёсак», у прыватнасці на шматпакутнай зямлі Асвейшчыны. Аўтар абапіраецца на сведчанні адшуканых ім былых вязняў канцэнтрацыйных лагераў, ураджэнцаў Асвейшчыны, архіўныя матэрыялы, пісьмы,

**дзіць савецка-балгарскі часопіс «Дружба». Будзем мацаваць дружбу.**

«Круглым сталом» абмен думкамі паміж польскімі і савецкімі пісьменнікамі не абмежаваўся. Ён працягваўся ў час сустрэчы з курсантамі Мінскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча і чытачамі Барысаўшчыны, у час паездкі пад Леніна, дзе прыняла баявое хрышчэнне 1-я польская дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі, і дзе, па сутнасці, нарадзілася Войска Польскае (Армія Людова). Было пра што расказаць, напрыклад, пісьменніку, палкоўніку ў адстаўцы К. Пшытоцкаму, які нарадзіўся ў Брадах, што на Львоўшчыне, быў прызваны ў Савецкую Армію, а зімой 1941 года ўдзельнічаў у рэйдзе Даватара пад Масквой. Са жніўня 1943 года стаў дабравольцам першай польскай танкавай брыгады імя Герояў Вестэрплятэ. Вайна для К. Пшытоцкага закончылася пад Гдыняю, дзе ён быў паранены. Цяпер пісьменнік збірае матэрыял пра ўдзел польскіх танкістаў у баях пад Леніна.

Не менш складаны лёс у Э. Куроўскага — аднаго з тых, хто стаяў на пачатку сумеснага літаратурнага руху польскіх і савецкіх ваенных пісьменнікаў. Пасля вызвалення Савецкай Арміяй заходніх абласцей Украіны ён з бацькамі вымушаны быў выехаць у Сібір. У час вайны — камсамолец, салдат Савецкай Арміі, затым — Войска Польскага (дарэчы, цікавая дэталь, Куроўскі — чэмпіён Польшчы па боксу). Выступаючы перад воінамі ў Барысаве, пісьменнік расказаў аб сваёй працы над кнігай «Птушкі ляцяць на Захад», якая мае аўтабіяграфічны характар.

Я наўмысна ўжыў высокі тэрмін «літаратурны рух», бо ў той час, калі ў Польшчы дзейнічалі экстрэмісты з «Салідарнасці», выступаўшыя, як правіла, пад сцягам антысаветызму, трэба было мець грамадзянскую мужнасць, каб служыць справе дружбы польскага і савецкага народаў. Гэты рух даваў упэўненасць польскім і савецкім людзям у непарыўнасці нашых творчых кантактаў, нашых літаратурных і культурных сувязей.

Ля вытокаў гэтага ваенна-патрыятычнага літаратурнага руху стаяў і другі член дэлегацыі — А. Пшыпкоўскі. Выступаючы перад воінамі, ён сказаў:

**— У дзевятнаццатым стагоддзі прагрэсіўная руская і польская інтэлігенцыя ішла поруч. Паляні вучыліся ў Расіі. Мой бацька скончыў Тэхналагічны інстытут у Петраградзе. Працаваў у Ніжнім Ноўгарадзе. Загінуў ён у час Варшаўскага паўстання. Ён мне гаварыў: «Сынок, воля прыйдзе толькі з Расіі».**

Так, лёсы бацькоў і дзяцей перакрыжоўваліся, як бы паўтараліся на новым вітку, вітку ваеннага часу, калі вырашалася галоўнае пытанне: быць ці не быць польскаму і савецкаму народам.

Наша братэрства і адлюстроўвае сучасная літаратура аб вайне. Пісьменнік, палкоўнік М. Папёлак падзяліўся з чытачамі ваеннай літаратуры сваімі творчымі планамі.

**— Пішу біяграфію савецкага і польскага генерала Стражэўскага. Я выбраў такога генерала, які мог бы ўвасабляць сабой вобраз нашай дружбы.**

Герой Савецкага Саюза, аўтар вядомай кнігі «Паветраныя тропы» В. Емяльяненка сказаў:

**— Зямля Беларусі і Польшчы паліта крывёю маіх таварышаў. Баявое хрышчэнне адбылося ў 41-м на Бярэзіне. А потым, у 1944—1945 гадах, васемнаццаць маіх таварышаў паклалі галовы за вызваленне Беларусі, дваццаць два — за вызваленне Польшчы. У лётчыкаў няма магіл. Давайце збяром сродкі і ў адным з гэтых гарадоў паставім ім помнік. Такі вопыт мы ўжо маем: у Керчы пастаўлены помнік у форме пяці крылляў, сімвалізуючых пяць авіяцыйных палкоў. І на адным крыле я з гордасцю чытаю назву свайго сёмага гвардзейскага Севастопальскага палка.**

Пяць дзён доўжылася знаходжанне польска-савецкай пісьменніцкай дэлегацыі на Беларусі, поўнае цікавых сустрэч і гутарак. Было што ўспомніць і пра што пагаварыць, напрыклад, маскоўскаму паэту А. Смольнікаву і празаіку з Барысава Уладзіміру Савіцкаму, якія ў час вайны служылі ў дывізіі, што брала рэйхстаг: першы — радыстам, другі — ваенным журналістам.

Пасля гутарак у Мінску і сустрэч з чытачамі на Барысаўшчыне пісьменнікі накіраваліся ў Леніна. Тут я гаварыў з Алегам Смірновым. З ім, як і з Пшыпкоўскім і Куроўскім, езджу па Беларусі другі раз. Сціплы, не вельмі гаваркі, ён толькі цяпер мне прызнаўся, што ўдзельнічаў у бітве пад Леніна:

**— Служыў я ў 192-й Аршанска-Хінчанскай стралковай дывізіі. Ганаровая назва Аршанская была прысвоена пазней, пасля вызвалення Оршы. Наша дывізія ваявала па суседстве з 1-й польскай дывізіяй. Калі Гітлер даведаўся, што польская дывізія ваюе з немцамі, ён загадаў сцерці яе з твару зямлі. Па іх білі, і нам даставалася. Тут мяне параніла. Тады я быў малады, была ўпэўненасць, што застануся жывы. Пасля Леніна мы пайшлі на Оршу, на Барысаў. У Мінск я з танкавым дэсантам уварваўся 3 ліпеня. Горад быў мёртвы. Немцы адыходзілі. Дзе-нідзе ўзнікалі яшчэ баі. Я тады камандаваў узводам. Пасля ўдзельнічаў у вызваленні Польшчы. З палякамі працягваецца пісьменніцкая дружба. Калі я працаваў у «Новом мире», мы дружылі з часопісам «Твурчосць», які рэдагаваў Яраслаў Івашкевіч. Цяпер, як бачыце, удзельнічаю ў сумесных сустрэчах.**

— І з Беларуссю вас звязаў не толькі ваенны лёс, але і творчы. На нашай кінастудыі пастаўлены па вашых сцэнарыях пяты і шосты фільмы серыяла «Дзяржаўная граніца»— «Год сорак першы» і «За парогам перамогі». Дзеянне пятага фільма адбываецца на пачатку вайны на тэрыторыі Беларусі. Дарэчы, вы служылі ў пагранічных войсках?

**— Пагранічнік я пасляваенны. Восем год праслужыў у Забайкаллі.**

— А чаму ўзяліся за сцэнарый фільма пра пачатак вайны?

**— Я валодаў матэрыялам. У мяне ўжо быў раман «Развітанне» і аповесць «Чэрвень» — пра пярэдадзень і пачатак вайны. А інакш я не рызыкнуў бы. Цяпер у вытворчасці сёмы і восьмы фільмы. Сёмы — Прыбалтыка, канец 50-х гадоў, называецца «Салёны вецер». Восьмы — «На дальнім пагранічча» — пра сучасную граніцу, пра добра знаёмае мне Забайкалле. Канечне, у серыяле ёсць фільмы рознага мастацкага ўзроўню, але калі глядзіш іх адразу, падрад, то бачыш, што гэта даволі поўны кіналетапіс гісторыі нашых пагранічных войск. У маі восемдзесят дзевятага мы будзем святкаваць 70-годдзе савецкіх пагранічных войск. К таму часу трэба завяршыць працу над серыялам.**

**Чым бліжэй кіно да жыцця, тым яно мацнейшае. Чым яно далей ад жыцця — тым больш у ім стэрэатыпаў, другаснасці.**

— А як у вас справы з прозай?

**— Раман я зацягнуў. Цяпер, пасля «Эшалона» і «Непазбежнасці» атрымліваецца, па сутнасці, трылогія. Чытачы прымусілі пісаць працяг — была *вялікая пошта, і я героя пакінуў жывым.* Час жа быў які ліхі — з сорак шостага па пяцьдзесят сёмы гады. Нялёгка пісаць, дакапацца да ўсяго.**

Атрымалася так, што наступнае пытанне я задаў польскаму пісьменніку Марыяну Папёлаку.

**— Якія цяжкасці? Розныя непатрэбныя забароны. Напішаш, *што афіцэр здраджвае жонцы*— выкрасляць, скажаш, што салдат уцёк у самаволку — таксама выкрасляць, а калі герой напіўся — двойчы выкрасляць. У адным палку быў выпадак: адпусцілі дваіх салдат у горад, высокага і маленькага. Маленькі напіўся. Што рабіць, на КП затрымаюць! Тады высокі прапанаваў загарнуць меншага ў плашч-палатку і, закінуўшы за плечы, пранесці яго. На КП афіцэр памацаў: «Цёплыя, відаць, доўга нёс». І тут вылазіць з плашч-палаткі рука і цап высокага за валасы. «Якія апількі! Гэта ж я!» — крычыць малы. Абодвум далі па пяць сутак. Нехта з афіцэраў папракнуў камандзіра роты: «Навошта ты і другога аддаў пад арышт, ён жа хацеў роту не падвесці». Зноў канфлікт. На конкурсе я атрымаў за гэты кінасцэнарый прэмію, а фільм так і не паставілі. Зрабіў з яго апавяданне — не надрукавалі.**

— Бачу, цягне вас на сатыру.

**— Я пішу сур'ёзна, а чытач глядзіць на ўсе падзеі як бы збоку, і яму смешна.**

Хацеў бы ў заключэнне зазначыць наступнае. Атмасфера перабудовы, галоснасці станоўча адбілася на дванаццатай савецка-польскай пісьменніцкай сустрэчы. Яна была надзвычай шчырай, адкрытай, дзелавой.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

запіскі, і па гэтых матэрыялах узнаўляецца адысея людскіх пакут, высокая чалавечнасць латышскіх жанчын — выратавальніц беларускіх дзяцей, вязняў Саласпілса. У аповесці ёсць спроба аб'яднаць матэрыял скразным вобразам Броні, былой дзяўчынкі, а цяпер сталай жанчыны, якая прайшла праз пакуты канцэнтрацыйнага лагера і працягвае шукаць сваіх родных, свае карані. І ўсё ж, думаецца, заяўка на жанр аповесці ў поўнай ступені не рэалізавалася, бо дакументальны матэрыял не ўсюды падпарадкаваны аўтарскай звышзадачы — стварэнню мастацкага твора, які б меў самастойнае эстэтычнае значэнне.

Больш арганічна, на наш погляд, дакументальны матэрыял трансфарміруецца ў дакументальнай аповесці «Першым заўсёды цяжка» (1986) У. Дамашэвіча і У. Сазановіча—пра камсамольцаў - падпольшчыкаў на тэрыторыі Клецкага раёна былой Заходняй Беларусі. Тут цэнтр цяжару адпаведна мастацкай прыродзе жанру перанесены на «ўнутраную працу» душы, на раскрыццё псіхалогіі подзвігу, драматызм барацьбы. Маральная вышыня герояў ў гэтым творы высвечваецца асабліва моцна: акрамя фізічных пакут, акрамя болі ад расстання з жыццём, яны перажываюць пачуццё віны перад сваімі блізкімі, роднымі, што сваёй смерцю прыносяць ім боль. Фінальныя старонкі кнігі напісаны на высокай хвалюючай ноце. Але дзіўна вось што. Быццам спалохаўшыся такога трагічнага заключнага акорда, аўтары «пад заслону» дадалі яшчэ адну старонку-каментарый, на наш погляд, зусім неабавязковую, мэта якой, відаць, вярнуць чытача на кругі дакументальнасці, напомніць яму, што гаворка ідзе пра рэальных людзей, якіх трэба помніць. Але ж каментарый разбурае мастацкае ўражанне фіналу.

Гаворка ідзе, такім чынам, аб больш поўным і эфектыўным выкарыстанні магчымасцей мастацкага жанру, каб у працэсе творчай трансфармацыі дакументальнага матэрыялу адбываўся, калі карыстацца выразам Л. Выгоцкага, той цуд ператварэння вады ў віно, які заўсёды ўзнікае ў сапраўдным мастацкім творы. Сінтэз жанраў павінен прыводзіць да пашырэння ўнутраных магчымасцей літаратуры, да ажыццяўлення больш складаных мастацкіх задач. Калі гэтага не адбываецца, то чым апраўдаць тады новае жанравае абазначэнне, няхай то будзе дакументальная або «гераічная аповесць у дыялогах», як назваў свой твор «Пад шыфрам «Зорачка» В. Лукша, або што-небудзь іншае. Відавочна, што асэнсаванне і ўвасабленне героікі Вялікай Айчыннай вайны патрабуе пошукаў новых падыходаў да тэмы.

**СПРЭЧКІ**
**ПАЛЕМІКА**

# АДНА АГУЛЬНАЯ ЗАДАЧА

**У часопісе «Весці Акадэміі навук БССР» (серыя грамадскіх навук), 1987, № 2, надрукаваны артыкул У. Замкаўца *«Жанравыя асаблівасці беларускага нарыса другой палавіны 50-х — пачатку 60-х гадоў»*, у якім разглядаецца і мая кніга нарысаў «Светлы шлях». Аўтар піша: «Зборнік *«Светлы шлях» дае падставу меркаваць* аб значным уплыве на аўтара, які спалучае ў сваёй асобе пісьменніка і спецыяліста-аграрніка, лепшых нарысавых традыцый савецкай літаратуры, у *прыватнасці В. Авечкіна»*.**

**Абсалютна правільна. Савецкая літаратура, у прыватнасці творчасць В. Авечкіна, зрабілі ўплыў не толькі на маю творчую практыку, але і на ўсю беларускую нарысістыку.**

**Але далей, калі справа дайшла да разгляду герояў, спатрэбіліся аналагі, як гэта нярэдка наглядаецца ў нашай крытыцы. Папярэдне, як падставу для аналагізацыі, аўтар падае цытату з кнігі Віктара Каваленкі «З пазіцый сучаснасці»: «Калі беларускія пісьменнікі, якія працуюць у жанры нарыса, і звярталіся да вострых жыццёвых праблем, то ўжо звычайна пасля таго, як гэтыя праблемы пачыналі займаць увагу ўсяго народа. Сіл на першаадкрыццё ім не хапала».**

**«І сапраўды, — як бы ў падмацаванне гэтай цытаты піша Замкавец, — у «Светлым шляху» мы знаходзім герояў, вядомых нам па нарысах рускіх пісьменнікаў. Напрыклад, Шаблонскі — гэта «родны брат» Барзову з «Раённых будняў» В. Авечкіна, Малчанаву з нарыса А. Калініна «На сярэднім узроўні», Ларывонаву з нарыса Р. Бакланава «У Снегірах» і іншым, але ўсё ж гэты твор у многім этапны для станаўлення беларускага праблемнага нарыса з моцным публіцыстычным гучаннем».**

**Супастаўленне Шаблонскага з Барзовым мяне здзівіла. Барзоў — буйная фігура, валюнтарыст, стаіць над законамі і ўсякімі нормамі сацыяльнай справядлівасці і маралі, сваёй адміністрацыйнай уладай, бяздушнасцю дабіваецца не толькі выканання, але і перавыканання плана любой цаной, любымі ахвярамі. Шаблонскі — функцыянер, упаўнаважаны, кантралёр выканання чыёйсці чужой волі, інфарматар-даносчык, ён сам нічога зрабіць не можа, можа толькі ўгаворваць і пагражаць. Між імі, тым не менш, ставіцца знак роўнасці. Пры такім параўнанні герояў, якое робіць Замкавец можна сцвярджаць, што Кола Бруньён — французскі Ціль Уленшпігель.**

**Выпрацаваўся нейкі стэрэатып ацэнкі герояў супастаўленнем у плане пераймання, наследавання з героямі-аналагамі рускай нарысістыкі. Дарэчы, гэты стэрэатып ужываецца іншы раз і ў крытыцы мастацкіх твораў. Абавязкова трэба знайсці ў рускай літаратуры такога героя, які падмацаваў бы думку крытыкі аб уплыве вядомага аўтара на творчасць таго ці іншага *пісьменніка.***

**У. Замкавец, мяркуючы па яго артыкуле, здольны даследчык, але чамусьці замест разгляду нарыса як самастойнага твора паддаўся стэрэатыпу — шукаць у беларускіх творах наследаванне не толькі там, дзе яно ёсць, але і там, дзе яго няма. У нарысе «Светлы шлях» ёсць галоўны герой, старшыня калгаса Павел Паўлавіч Шаманскі, чалавек, *які ў часы адміністраван*ня, валюнтарызму адважыўся супрацьстаяць не толькі райкому, але і абкому. Сіла яго жывілася глыбокім веданнем праблем у сельскай гаспадарцы, *клопатамі* аб інтарэсах дзяржавы, аб дабрабыце калгаснікаў, свайго калгаса. Ёсць у нарысе і іншыя героі. А. Шаблонскі — сёмая спіца ў коле, ні ўласных думак, ні ўласнай волі. Але аўтар звярнуў увагу не на Шаманскага, а на Шаблонскага. Тут лягчэй было знайсці падабенства, хоць і ўяўнае.**

**Прашу даць веры, што мяне асабіста такія параўнанні не кранаюць, мяне турбуе становішча, прэстыжнасць беларускага нарыса. Такія «абавязковыя» і бяздоказныя супастаўленні прыніжаюць яго.**

**Хочацца запярэчыць і В. Каваленку. «Сіл на першаадкрыццё» буйных праблем не хапала не толькі беларускім нарысістам, але і рускім, і ўкраінскім, і літоўскім, і іншым. Не В. Авечкін адкрыў праблему адміністравання, валюнтарызму, адвольнасці ў кіраўніцтве сельскай *гаспадаркай, парушэння справядлівасці.* Калі В. Авечкін выступіў са сваімі «Раённымі буднямі», гэтыя праблемы «займалі ўвагу ўсяго народа». Многія вучоныя яшчэ да з'яўлення «Раённых будняў» падавалі дакладныя запіскі, уносілі прапановы ў кіруючыя органы аб неабходнасці змены метадаў кіраўніцтва сельскай гаспадаркай. Але прапановы іх не прымаліся пад увагу.**

**Заслуга В. Авечкіна не ў першаадкрыцці праблем, а ў тым, што ён падаў іх у такой вострай мастацкай форме, якая ўсхвалявала ўсё грамадства.**

**Рускія нарысісты ў свой час узнялі праблему захавання чысціні водаў Байкала, але ўсё ж іх артыкулы, нарысы з'явіліся пазней, чым будаўнікі цэлюлознага камбіната на берагах возера. Тое ж самае здарылася і з праблемай павароту паўночных рэк на поўдзень. Пісьменнікі загаманілі тады, калі праект, як кажуць спецыялісты, пачаў пераносіцца ў натуру — ажыццяўляцца.**

**Навошта ж папракаць беларускіх нарысістаў у недахопе сілы, калі заканамернасць уздыму праблемы паўсюль аднольнавая? Літаратары даведваліся пра вострыя, дзяржаўнага значэння праблемы ад вучоных, буйных спецыялістаў або непасрэдна тады, калі пачыналася іх практычнае ажыццяўленне. Да нядаўняга часу так складвалася, што іншых магчымасцей даведацца аб планах і праектах не было. Усе распрацоўкі былі наглуха закрыты суровымі грыфамі сакрэтнасці. Нават пры выпадках інфармаванасці пра якія-небудзь важныя распрацоўкі, выступаць *публічна нельга было.* Перад друкам стаялі тыя ж суровыя забараняльныя знакі.**

**Вядома, у дзяржавы ёсць такія справы, якія трэба захоўваць у строгім сакрэце. Але *навошта* засакрэчваць праект асушэння і асваення Палескай нізіны? Як ні мяркуй, у такой засакрэчанасці адзін сэнс — пазбегнуць кантролю грамадскасці. Справядліва піша С. Залыгін: *«Кантроль, а ў больш* шырокім сэнсе ўздзеянне на ведамства павінна, як правіла, весціся не з аднаго, а з двух бакоў, павінна ажыццяўляцца і дзяржавай і грамадствам» («Новый мир», 1987, № 1).**

**Прыгадаем выпадак, звязаны з праблемай Палесся. У межах беларускага Палесся да пачатку масавага асушэння налічвалася звыш мільёна гектараў лесу. У *першым варыянце* праекта асушэння палескіх балот меркавалася высечны 900 тысяч гектараў лесу. Абгрунтаванне такое: нам патрэбны глебы пад пасевы.**

**_Вучоныя_ запратэставалі. Большасць лясоў Палесся на пясках. На такіх глебах ніякія культуры расці не будуць. Знішчэнне лясоў аголіць пяскі, вецер разнясе іх па ўсёй прасторы і можа нарабіць шкоды. Была спроба напісаць нарыс, але выйсці з ім на старонкі друку не ўдалося...**

**Калі гаварыць пра тое, хто раней выступіў у друку па той ці іншай вострай праблеме, то адважуся сцвярджаць — беларускія нарысісты не заўсёды былі апошнімі. Можна назваць крытыку хібаў меліярацыі, праблему паляпшэння зямельных угоддзяў, выступленні супраць спрамлення, праўдзівей — знішчэння малых рэк, супраць вузкай спецыялізацыі, гігантаманіі ў канцэнтрацыі сельскагаспадарчай вытворчасці, супраць выдзялення «неперспектыўных» вёсак, аб праблемах перабудовы вёскі, пра міграцыю насельніцтва і г. д. Іншая справа, што слова беларускіх публіцыстаў мела куды меншы розгалас, але на прычынах гэтай з'явы я спыняцца цяпер не буду.**

**Так, у беларускай нарысістыцы ўсё яшчэ мала ўздымаецца буйнамаштабных праблем. Адставанне гэтага жанру, аднак, *не толькі ў тым, што нарысіс*там не хапае сілы, бракуе здольнасцей. Галоўная прычына, што ў нас мала пісьменнікаў, якія сістэматычна працуюць у гэтым жанры. Непрыстыжнасць нарыса мае тут не апошняе значэнне. Аб'ектыўная, справядлівая крытыка, ацэнка жанру, адпаведная яго значэнню, спрыялі б актывізацыі беларускай нарысістыкі.**

**Ігнат ДУБРОЎСКІ.**

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ**

### *Супрацьстаянне*

Супроцьстаіць мая Радзіма
На мове гневу і любві —
Агню пякельнаму і дыму,
Слязам сірочым і крыві.
У пушчах, паміж кручаў горных,
У васільковай старане,
Сярод вышынь зямных і зорных
Супроцьстаіць яна вайне.
Супроцьстаіць мая Радзіма
Усім нягоднікам на злосць
Нябёс блакітнымі вачыма,
Якія толькі ў міру ёсць.
Супроцьстаіць ахвярна, смела
Жыццём салдата-юнака,
Свінцом, што стаў часцінкай цела
Суровага франтавіка...

●

За малавера мне заўжды няёмка —
Ды ёсць на свеце вечнае «люблю».
І веру я ў сустрэчу з незнаёмкай,
Што, як вясёлка, сыдзе на зямлю.
Сярод вясной раскрыленага мая
Убачу лёгкі, недасяжны стан.
Яна насустрач выплыве святая,
Світальная, як бэзавы туман.
І ціха-ціха ўпадзе на плечы
Каса яе ў нябесных касніках.
І скажа мне аб маладым і вечным,
Як светлы промень, тонкая рука.
Няхай яе і не пачую ласкі —
Яна падорыць з юнаю вясной
Дыханне яблынь белапенных, майскіх
І ўсю пяшчоту да цябе — зямной.

**Іван ЛАШУТКА**

●

Як тою вясной
пры расстанні са школай,
Табе ўсё да твару:
І белы рамонак
у косах шаўковых,
І гордыя песні Ратару.
...А шчасце, дачушка,
што птушка у небе —
Яно ў вышыні
і на волі.
Напэўна, жыццё ўсё
шукаць яго трэба —
Нястомна,
адчайна, да болю.

●

Я пра вас часта думаю, дзеці, —
Вестуны веснавыя мае,
У хлуслівым і здрадлівым свеце,
Як, бывае, мне вас нестае.

Вы — мае найвышэйшыя суддзі,
Вы — мае абаронцы надзей.
О, як трэба, дарослыя людзі,
Справядлівасць шукаць —
у дзяцей.

**Уладзімір ФАМІН**

### *На пераломе*

На пераломе —
наш дваццаты век.
Жыццё старое мы пераламілі.
На пераломе —
кожны чалавек.
На пераломе —
казка стала быллю.
Не ўпершыню на пераломе быць.
Ён —
нібы эстафета пакаленняў.
Не проста так сябе пераламіць:
Характары і звычкі —
не паленне.
Не спаліш на агні,
што не гарыць,
І не затопіш тое,

## ПРОЗА



**Васіль ХОМЧАНКА**

# Я ІХ РАТАВАЛА...

*АПАВЯДАННЕ*

— Не, не, у лагеры ён не загінуў, — заматляла яна галавой, — выйшаў, уцалеў, адседзеўшы сваё. — Рука яе з запаленай цыгарэтай крутнула ў паветры васьмёрку. — Восем гадоў.

У пакоі адпачынку, ці як тут яго называюць — холе, пасля прагляду фільма па тэлевізары мы засталіся з ёю ўдваіх. Затрымала мяне яна, ёй захацелася пагаварыць пра фільм. Яна сказала, што падобная сітуацыя была і з ёю ў маладосці, і што гэты фільм, хоць нешта і паказаў, але ўсёй праўды ў ім не знойдзеш.

Прыехала яна ў гэты дом адпачынку пазней мяне тыдні на два, толькі сёння, і я ўпершыню ўбачыў яе вось тут, у холе. Курыла яна многа, пакуль глядзелі фільм, двойчы выходзіла пакурыць з хола ў калідор. Відаць, ад курэння голас яе быў сіплаваты, і пахла ад яе табачным дымам. Яна была хударлявая, галава сівая, аднак мясцінамі, пасма — то белая, як вата, то — цёмна-русявая. Твар — таксама худы, але з правільнымі і прыгожымі прапорцыямі; у маладосці яна была, канечне, прыгожая. Рот ярка нафарбаваны і, здавалася, жыў самастойна — ён усміхаўся, калі смешнага нічога не было ў яе расказе, і панура-злосна сціскаўся, хоць гаварылася пра вясёлае.

Апавядаць пра сябе пачала бязладна, сыпала без аніякай сувязі рознымі гісторыямі, нібы лічыла, што мне ўсё вядома аб яе жыцці, і ёй застаецца толькі напамінаць пра той ці іншы эпізод.

— Вы адзіны тут, на нашым паверсе, мой равеснік і павінны добра помніць і той час, і тыя падзеі, — сказала яна. — Помніце канец трыццатых?

Я адказаў, што помню добра, але ўспамінаць балюча, бо той час для мяне драматычны.

— А мне, думаеце, не балюча? У мяне тая рана ўсё яшчэ крsyваточыць... Давайце знаёміцца: Таццяна Данілаўна.

Я таксама назваўся.

— У пашпарце я запісана Танька. Так пісар-грамацей у сельсавеце запісаў. Спытаў, якое імя выбралі. Яму сказалі — Танькай назвалі. Гэта «Танька» і была ўпісана ў мае метрыкі.

Пасля бязладнай, узбуджана-таропкай размовы Таццяна Данілаўна супакоілася, распытала ў мяне пра мой горад, дзе і кім я ваяваў, чым цяпер займаюся.

— Я была прыгожая і ўлюблівая, — расказвала яна, — таму і мяне любілі. Нарадзілася ў вёсцы, адтуль бацьку-настаўніка перавялі ў горад, куды ён перавёз сям'ю, ну і мяне трохгадовую. На нашым двары ніводзін хлопчык ніколі мяне не ўдарыў і не пакрыўдзіў. Кожны стараўся ўгадзіць мне, пачаставаць чым-небудзь смачным. Я ў кожнага з іх улюблялася. Потым, калі пайшла ў школу, была закахана ў сваіх аднакласнікаў, у важатага, камсамольскага сакратара, у настаўнікаў і нават, верце ці не верце, у свайго следчага ўлюбілася. Калі я ішла па вуліцы, то глядзела ў твары стрэчных мужчын такімі ўлюбёнымі вачамі, што яны азіраліся на мяне, а гэта мне падабалася.

Я любіла і ўмела спяваць. Спявала малой усюды і заўсёды. Калі нельга было моцна спяваць, а хацелася, сабе пад нос мармытала. Паб'юць, бывала, бацькі, я раву, але меладычна, на матыў нейкай песенькі. Мне хацелася, каб мой спеў і слухалі. Я збірала тады сваіх равеснікаў, спявала ім, і за тое, што яны мяне слухалі, плаціла ім цукеркамі. Выступала і на гарадскіх аглядах самадзейнасці. Нават у сталіцу пасылалі выступаць. Голас мне прырода падарыла не моцны, але прыемны. Спявала пад гітару.

Праз гэтыя мае спевы ўсё і зламалася ў маім жыцці. На адным гарадскім канцэрце пачуў мяне адзін таварыш. Сінічкін яго прозвішча, наш начальнік гэтага самага праваахоўнага органа, і прапанаваў мне пайсці... Не замуж, а да іх — сакратаркай-машыністкай. Сказаў, што ў іх ёсць мастацкая самадзейнасць і што я буду там выступаць з канцэртамі. Я тады дзесяты клас канчала, ад суседкі навучылася друкаваць на машынцы, часта памагала ёй. Паступаць далей вучыцца не збіралася ў тым годзе, трэба было памагаць маці і двум малодшым брацікам. Бацька мой к гэтаму часу памёр. Вырашыла папрацаваць гады два, а потым ужо думаць пра вучобу. Прапанову Сінічкіна я прыняла, пайшла да яго на службу.

У першы ж дзень я зразумела, што Сінічкін запрасіў мяне на працу таму, што я яму спадабалася. Я ж была прыгожая і ўлюблівая, улюбілася і ў Сінічкіна, як дагэтуль улюблялася ў многіх. На яго і пэўныя планы мела, спадзявалася замуж выйсці, бо ён быў халасты, хоць і старэйшы за мяне гадоў на пятнаццаць.

— Які ён быў, той Сінічкін? — Яна накрэсліла ў паветры пытальнік. — А непрыкметны, звычайны, я б сказала — безаблічны. Рыжаваты, ростам малы, ніжэйшы за мяне на цэлую галаву, дзябёлы, такі квадратненькі, і твар квадратненькі, з моцнымі баксёрскімі скуламі. Калі Сінічкін быў не ў духу, сердаваў, то гэтыя скулы хадуном хадзілі. Стол яму быў высокі і, каб не выглядаць малым за сваім начальніцкім сталом, Сінічкін падоўжыў ножкі крэсла, падбіў да іх чатыры цурбачкі, а пад ногі сабе паставіў услончык.

Грамацёнку ён меў невялікую, пісаў з памылкамі сямікласніка. Мне апраўдваўся, што памылкі робіць па няўважлівасці, а не таму, што не ведае граматыкі. Я, канечне, выпраўляла і яго памылкі, і стыль, і ён быў мною задаволены, як машыністкай.

Любімай яго прыказкай было: «Даць пад хвост так, каб галава рэпнула». Я чула яе ў дзень дзесятак раз і сама міжвольна часта яе паўтарала.

Знешне ён быў спакойны, нават халодны, мог быць доўгі час зацята маўклівы і рэдка калі ўзрываўся, крычаў. Рэдка... Злавалі яго тыя, што сядзелі перад ім на допыце і не хацелі прызнавацца ў сваёй злачыннай дзейнасці. Часта пры мне шчыра абураўся: «Яны што, дурні, гэтыя арыштаваныя? Не хочуць разумець, што яны злачынцы, ворагі? Сам жа факт арышту пацвярджае іх віну».

«Вас арыштавалі? Па ордэру пракурора? — дапытваўся ён аднойчы пры мне ў аднаго паддопытнага. (Я тады зайшла ў кабінет Сінічкіна па нейкую паперу). — Дык што ж вы адпіраецеся?»

І я гэтак жа думала — чалавека без віны не арыштуюць.

А ішоў трыццаць сёмы год. Установа наша працавала напружана дзень і ноч. Божа, хто толькі не прайшоў праз яе!.. І, ведаеце, нават я звыклася з тым, што адбывалася, не здзіўлялася патоку арыштаваных. Я атупела і прытупіліся мае ўражанні. І ўсе, хто працаваў у нашай установе, таксама атупелі — ні слёзы, ні крыкі, ні мольбы няшчасных не краналі. Як не кранаюць, скажам, прафесіянала-ката мальба і слёзы асуджанага на смерць дараваць яму жыццё — гэта яго праца, служба, заробак на хлеб. Закон псіхікі, нічога не зробіш. Я верыла, як і Сінічкін, што трэба рашуча ачышчаць нашу краіну ад ворагаў, выяўляць іх, бо яны дужа ўмеюць маскіравацца. Я без болю ў душы друкавала спісы на арышты для так называемых троек, што судзілі без суда, завочна, справаздачы аб смяротных прыгаворах.

Як мне споўнілася васемнаццаць, а гэта было месяцы праз два пасля прыходу на службу да Сінічкіна, я стала яго палюбоўніцай. Да гэтага ён не чапаў мяне, чакаў майго паўналецця. Сышлася я з ім лёгка, была ж упэўнена, што пажэнімся. Праўда, я не прыспешвала яго на шлюб, а ён сам таксама пра гэта не гаварыў. Сустракаліся мы то на службе, то я прыбягала да яго на кватэру.

Аднойчы вечарам шостага лістапада Сінічкін зайшоў да мяне ў пакойчык і прысеў побач, паскардзіўся, што вельмі стаміўся на службе. «Гэта ж столькі карчуем, карчуем, а ворагаў не ўбаўляецца. Б'ём здорава пад хвост, а галава ў гэтай контрарэвалюцыі не рэпаецца. І такое адбываецца пасля дваццаці гадоў Савецкай улады!» — абураўся ён.

Я згодна ківала яму галавой і шкадавала яго. Сінічкін сапраўды вельмі пахудзеў, палысеў, скулы завастрыліся, і мне стаў радзей прызначаць спатканні.

Чым запомніўся мне той перадсвяточны вечар? Цішынёй у кабінетах следчых. Допытаў не было, нікога не прывозілі, не арыштоўвалі, машыны — іх у народзе чорнымі воранамі называлі — стаялі ў гаражы, а шафёры былі адпушчаны на свята дамоў. Цішыня гэта здзіўляла. А то ж звычайна ідзеш па калідоры, а з кабінетаў толькі і чуваць крыкі следчых: «Чаму маўчыш, махровае варожае адроддзе?» — «Прызнавайся, падлюка антысавецкая!» А ў той вечар была цішыня.

Я тады ўскіпяціла ў электрачайніку чаю, заварыла, Сінічкін прынёс сыру, шынкі, цукерак, мы павячэралі, пасядзелі, пагаварылі, я паслухала яго скаргі на начальства — дае яму ўтык за доўгія тэрміны следства і за адставанне па колькасці выяўленых ворагаў. Таварышы вунь з суседніх раёнаў намнога больш выкрылі розных варожых элементаў. Тады ж упершыню ад яго пачула, што некаторых арыштавалі памылкова, дарэмна, іх можна было б і выпусціць, але будзе лічыцца брак у рабоце: не здолелі, маўляў, даказаць віну.

Я сабралася ісці дамоў, а Сінічкін успомніў, што ёсць тэрміновая работа, і даў мне надрукаваць розныя паперы і ордэры на арышт, якія павінен падпісаць пракурор адразу пасля свята. Сінічкін пайшоў дамоў, а я села за машынку.

Друкую тыя ордэры, і раптам мае рукі павіслі ў паветры, не ўдарылі па клавішах. У спіску на арышт было прозвішча майго стрыечнага брата Валодзі — нашы маткі родныя сёстры. Божа, а яго завошта? Які ён вораг? Яму ж усяго васемнаццаць, вучыцца ў тэхнікуме, з беднай сям'і. Першы парыў быў у мяне — выкрэсліць яго прозвішча са спіса, а ордэр не выпісаць. Але ж разумела, што так брата не ўратуеш. Чытаю далей спіс. Яшчэ адзін знаёмы — Коля Пратасевіч з нашага двара, камсамольскі сакратар тэхнікума, старэйшы за Валодзю гады на тры. І ён вораг? Такі актывіст? Мне смешна зрабілася. Я ж іх абодвух добра ведаю. Хацела пазваніць Сінічкіну дамоў, ці не памылка ўкралася, ды ўтрымалася. Вырашыла інакш: папярэдзіць хлопцаў, каб куды-небудзь з'ехалі, уцяклі. Час у іх ёсць, два дні свята. Шукаць іх не будуць, у такі гарачы час не да пошукаў нейкіх там студэнцікаў.

Я зайшла спачатку ў інтэрнат да Валодзі. Ён паслухаў мяне, напалохаўся, збялеў. У пакоі больш нікога не было, і мы маглі гаварыць не тоячыся. Валодзя сказаў, што за апошні тыдзень у іх арыштавалі ўжо трох студэнтаў і двух выкладчыкаў, а сёння выключылі з камсамола сябра.

«Разумееш, Таня, хлопец у інтэрнаце граў на грамоніку і спяваў песню: «Бывало, вспашешь пашеньку, лошадок распряжешь, а сам тропой знакомою в заветный дом пойдешь». Дык адзін пільны актывіст назваў песню кулацкай, а хлопца абвінаваціў у прапагандзе аднаасобнай кулацкай гаспадаркі. Вынеслі гэты факт на камсамольскі сход. І што ты думаеш? Выключылі хлопца з камсамола. Твой сусед Коля Пратасевіч за такую прапанову першы прагаласаваў. Я і яшчэ чацвёра былі супраць выключэння».

«Што ж мне цяпер рабіць?» — спытаў Валодзя ў мяне, разгублены, пры-

што не тоне.
Мы не гадаем:
Быць або не быць?..
І наша слова цвёрдае,
святое.
Дарэмна прытаіўся хтось,
бы крот.
Прыціх хабарнік:
не знаходзіць рады.
І балбатун набраў вады у рот:
Усё чакае «зверху» ён каманду.
Нязвыкла блату:
прышчамілі хвост.
З аглядкаю п'янчуга п'е сівуху.
А за вуглом плюгавенькі прахвост
З ухмылкаю нашэптвае на вуха,
Што намаганні нашыя —
нішто.
Ён распускае плёткі пад «сакрэтам»,
Што хлеб нібы падаражэе,
Што
Гарэлка не даруе дзяржбюджэту.
Вось гэты не мяняе звычай свой.
Па-свойму успрыняў ён паскарэнне.
Як кулямёт,
Паклёпы шле чаргой,
І гнеўна нешта мямліць пра сумленне.

А мы вядзём упарты бой са злом.
І верым свята — блізка перамога.
Нібы вясна,
віруе пералом,
Напорыста пракладвае дарогу.

**Уладзімір ЦІШУРОЎ**

## Я вырас у тым краі...

У лесе я вырас,
дзе стройныя хвоі
вяршынямі
цягнуцца ў неба.
Яны, як дзяўчаты, чакаюць
незвычайнага.

У лузе я вырас,
што свеціцца ізумрудам,
дзе розныя кветкі
схіляюць галоўкі ў задуменні
аб сваім кароткім лёсе.

У полі я вырас,
дзе звініць песня жаўрука,
як ручай веснавы,
дзе набракае кулеш зямлі
ад цеплыні
і ласкі вясенняй.

Я вырас у тым краі,
дзе пяюць салаўі,
дзе пульсуюць крыніцы,
дзе начамі не спіцца
кожнаму,
хто хоча напіцца
шчасця гаючай вадзіцы.

Я вырас у звычайным краі.
Але ёсць тут
і шчасце і праца
для кожнага чэснага чалавека.

...Пасля ўсіх дарог пакручастых
знаходжу і я
сваё непрыкметнае шчасце
ў тым краі, дзе я вырас.

●

Матулі не спяць начамі,
Іх думы пра нас, дзяцей.
Трывога іх б'е перунамі,
Пакуль яшчэ тчэцца прад намі
Дарога з лепшых надзей.

біты такой навіной, ад хвалявання ў яго дрыжалі рукі.

Я сказала, каб уцякаў і як мага далей.

«Мяне ўсюды знойдуць».

«Пакуль збяруцца шукаць, можа, арышты скончацца».

«Паеду ў Сібір на якую-небудзь будоўлю»,— сказаў Валодзя.

Прыняўшы такое рашэнне, адразу ж ён і супакоіўся. Хуценька сабраў свае рэчы ў чамадан, канспекты і падручнікі туды ж паклаў. Я дала яму грошы, пацалавала на развітанне. І адправіўся мой брат Валодзя на вакзал. У пакоі інтэрната пакінуў запіску, што паехаў да хворага родзіча, вернецца праз некалькі дзён.

Радасная, што памагла брату, паспяшалася да суседа Колі. Коля хлопец быў прыгожы, ён мне падабаўся больш за ўсіх на двары. Я была ў яго ўлюбёна здорава. Высокі бландзін, з сінімі вачамі і доўгімі пушыстымі вейкамі, такімі, што ўсе дзяўчаты зайздросцілі, чаму не ў іх такія прыгожыя вейкі і вочы. Колю любіла не толькі я — натура ўлюблівая, а ўсе дзяўчаты, якія яго ведалі. Ён нібы магнітам да сябе прыцягваў і малых, і равеснікаў. Хлопцаў і дзяўчат нашых і суседніх двароў арганізаваў ў спартыўны атрад, уцягнуў у Асавіяхім, усе яны з дапамогай Колі сталі варашылаўскімі стралкамі. Натура ў яго была кіпучая. Дэвіз яго ў жыцці і дзейнасці — ура і толькі ўперад! Чула я, у тым ліку і ад Валодзі, што Коля ў тэхнікуме вельмі ўжо стараўся выкрываць варожа настроеных студэнтаў і выкладчыкаў. У мяне там была знаёмая студэнтка Гендаль, амаль сяброўка. Намаганнямі Колі яе выключылі з тэхнікума і з камсамола за тое, што назвала чырвонаармейцаў салдатамі. Вяртаўся строй байцоў з вучэнняў, стомленыя, запыленыя байцы ледзь валаклі ногі. І ў Гендаль вырвалася: «Ой, як нашы салдацікі стаміліся. Шкада іх». Пачуў гэта Коля Пратасевіч і прышыў Гендаль крамолу: як гэта можна параўноўваць чырвоных байцоў з салдатамі, салдаты ж у цароў ды капіталістаў.

І яшчэ адзін факт помніцца пра Пратасевіча. У нашым двары быў арыштаваны просты рабочы—дзядзька Сымон. У таго засталіся дома жонка і два хлопцы-блізняты па чатырнаццаць гадоў. Дык Коля Пратасевіч адразу выключыў іх са сваёй кампаніі і з гуртка авіямадэлістаў. Я тады сказала Колю, каб не праганяў хлопцаў, а ён мне: «Чаму гэта ты такая міласэрная да дзяцей ворага? Ты дзе працуеш? Я туды пра цябе напішу». Я спалохалася не яго пагрозы напісаць пра мяне майму начальству, а гнеўнага бляску яго халодных сініх вачэй: колькі ж было ў іх нянавісці! Я ажно ўздрыгнула — гэты Коля можа зараз кінуцца на мяне і задушыць. Далібог, я так тады падумала.

І вось на гэтага кіпучага няўрымслівага барацьбіта з ворагамі я надрукавала ордэр на арышт. Ішла да яго і ўсё здзіўлялася, не разумела, чаму яго забіраюць, за якую віну. Ён жа сам выкрываў і карчаваў варожых элементаў. Мне нават смешна стала. Быў момант, што і ўзрадавалася: дактыўнічаўся, Колечка, даскакаўся, дакрычаўся — вакол ворагі, ворагі! А цяпер самога ворагам аб'явілі. Але ж пашкадавала, вырашыла памагчы.

Коля жыў з маці і цёткаю, абедзве жанчыны — партыйныя, працавалі на заводзе. Бацьку Колінага ніхто з нас не ведаў, і яго ніколі не бачылі. Адны казалі, што Коля — байструк, другія сцвярджалі, нібыта бацька ўцёк ад сям'і, калі Коля яшчэ не нарадзіўся.

Я застала дома іх усіх. Пры маці і цётцы гаварыць пра арышт не адважылася, паклікала Колю на двор. Строгая, правільная Коліна маці падумала, што паміж мной і сынам сустрэча любоўная, спрабавала выпытаць у мяне, навошта мне Коля спатрэбіўся, я ёй не прызналася, тады яна загадала яму, нібы малому, каб быў дома праз паўгадзіны.

Выйшлі мы на двор, і трэба ж такому здарыцца, сустрэліся з маёй сяброўкай Гендаль. Коля адразу адвярнуўся ад яе, на «добры вечар» не адказаў.

«Прыйшла за яе прасіць? — паказаў ён услед Гендаль. — Дарэмна».

«Яе ўжо не ўратуеш, — сказала я. — Ратавацца трэба табе».

«Ад чаго?»

«Ад арышту».

Ён адступіў ад мяне, склаў на грудзях рукі, схіліў набок галаву.

«Правакуеш? Пужаеш? Не выйдзе. — сказаў ён ціха, пагрозліва. Сінія вочы яго пацямнелі варожасцю, лютасцю — мы стаялі пад яркім ліхтаром. і мне добра быў бачны Колеў твар. — Я чалавек адданы партыі і таварышу Сталіну. Таму табе гэтыя правакацыйныя штучкі не пройдуць».

Тут я ўжо раззлавалася.

«Аднак жа цябе, такога адданага таварышу Сталіну, арыштуюць дзявятага ці дзесятага лістапада. Я друкавала ордэр на твой арышт».

А ён усё роўна не верыў і яшчэ больш мяне ўзненавідзеў. Рукі яго раз-пораз сціскаліся ў кулакі так пагрозліва, што я адступала ад яго, а ён наступаў. Я баялася яго, што ён пачне мяне ці душыць, ці біць. Ён, канечне ж, шчыра не верыў у той ордэр, лічыў, што я сапраўды яго палохаю, каб прыціх, не актыўнічаў, думаў, можа, я помшчу за сяброўку Гендаль. Ці яшчэ за каго. Абражаў мяне, абражала і я яго. Але ўсё ж ён прыціх і я прыціхла, узяў мяне за руку, адвёў далей ад дома. Ён паверыў мне, толькі спытаў, чаму я не пабаялася сказаць пра гэта. «Я ж цябе люблю»,— адказала яму тады. І ён паверыў ужо канчаткова.

«Калі і арыштуюць, то адразу і выпусцяць,— сказаў ён упэўнена,— за мной віны няма, я чысты».

«Так усе верац»,— падумала я і параіла некуды паехаць ці прытаіцца ў горадзе на нейкі час.

Што таксама папярэдзіла Валодзю, яму не сказала.

Маю параду ён не прыняў, сказаў, што хавацца не стане, ён не трус. Расталіся амаль па-сяброўску, ён нават мяне пацалаваў.

Прайшлі два святочныя дні. Дзевятага позным вечарам прыехалі на чорным воране па Валодзю ў інтэрнат. Забралі яго запіску, папярэдзілі насельнікаў пакоя і каменданта, каб адразу ж паведамілі, як толькі ён з'явіцца. Колю арыштавалі дзесятага. Я бачыла яго праз акно, калі аднойчы вялі па двары. Прыгожы бландзін ішоў, хоць і пад канвоем, з высока паднятай галавой.

Мае любоўныя сустрэчы з Сінічкіным працягваліся. Я зацяжарыла і ўзрадавалася гэтаму, Сінічкін ад дзіцяці не адмовіцца і жэніцца са мной. Досыць яму хадзіць халасцяком. Нараджу яму сына — была ўпэўнена, што будзе сын.

Ад Валодзі не было ні слыху, ні духу, а Колю кожны вечар на допыт вадзілі. Пацікавілася, якога ж прызнання ад яго дабіваюцца. Сказалі, што абвінавачваюць у сувязі з бацькам — ворагам народа, быццам бы шпіёнам і дыверсантам нейкай дзяржавы. Бацька яго сядзеў у сталічнай турме.

Пра сваю цяжарнасць я Сінічкіну сказала не адразу, думала, пачакаю, каб ён сам заўважыў. А потым усё ж сабралася сказаць, не цягнуць далей.

Была субота. У канцы дня я пайшла да Сінічкіна, каб з ім разам паехаць потым да яго на кватэру. Іду радасная, як і ходзяць на такую сустрэчу з любімым. Адчыніла дзверы кабінета, пераступіла парог. «А вось і я»,— сказала з усмешкай на ўвесь рот.

Аднак Сінічкін не адказаў мне такой жа ўсмешкай, квадратны твар яго як скамянеў, і скулы застылі, і губы сцяты. А пад сталом ногі ў хромавых ботах нервова дробна прытупвалі на ўслончыку. Выцягнутыя на ўсю даўжыню рукі на стале сціснуты ў кулачкі—яны ў яго былі нейкія малыя, як у падлетка.

Я і спынілася на парозе, як бы наткнулася на тую яго маўклівасць, усмешка мая ўраз змылася, зразумела, што нечым угнявіла Сінічкіна.

«А вось і я»,— ужо машынальна, але ціха паўтарыла я, а ён зноў не адказаў.

«Прызнавайся,— ускінуў ён уперад руку жэстам правадыра. — Пратасевіча ты папярэдзіла аб арышце?»

Я крутнула адмоўна галавой, таксама машынальна, і такая раптам мяне ахапіла слабасць, што ў вачах паплылі жоўтыя кругі. Калі б не ўчапілася за лутку дзвярэй, то паваліласяб. Хоць Сінічкін і бачыў гэта, аднак не кінуўся на дапамогу, заставаўся сядзець у тым жа крэсле з падоўжанымі ножкамі.

«Ілжэш,— сказаў ён ледзяным голасам. — Пратасевіч прызнаўся, што ты да яго прыходзіла і папярэдзіла, нават раіла ўцякаць».

«Хоць бы пра брата не ўведаў», — напалохалася я.

І быў крык, лаянка, пагроза аддаць пад суд за разгалашэнне дзяржаўнай тайны, былі мае слёзы, мальба аб даравАнні. І прызналася я, што ў нас будзе дзіця, сын.

«Ты цяжарная?» — прашаптаў ён і адразу ж на вачах маіх як бы ўпоўз у сябе, зменшыўся, здрабнеў, локці прыціснуў да бакоў, а рукі склаў так, быццам збіраўся памаліцца. Я і не зразумела, ці гэта навіна яго ўзрадавала, ці аглушыла, напалохала. Нейкі час абое маўчалі. Потым ён устаў, выйшаў з-за стала, пасадзіў мяне на канапу, сам прысеў побач, узяў за руку.

«Колькі яму ўжо будзе, сыну?» — паклаў ён сваю руку мне на жывот.

«Трэці месяц».

Ён спытаў, ці не збіраюся я рабіць аборт, то ён памог бы, ёсць знаёмы доктар, але я сказала, што буду раджаць.

«Некалі ж мне трэба выйсці замуж, а табе ажаніцца»,— сказала я.

Ён заківаў згодна галавой і задумаўся. Пра што думаў, што вырашаў, я не ведала, але верыла, што думкі яго добрыя для мяне. Нарэшце ён устаў, пацалаваў мяне, сказаў:

«Сына раджай, але пакуль пра гэта маўчы. І я пра цябе прамоўчу, нікому не скажу, што ты папярэдзіла Пратасевіча».

Я потым і маўчала.

У той жа вечар мы паехалі да яго, і там я заначавала.

Прайшло дзён дзесяць. Аднойчы на пачатку дня, як толькі я з'явілася на службу, выклікаў мяне начальнік-гаспадарнік і паслаў разам з сяржантам у сталіцу з заданнем завезці ў камісарыят нейкія дакументы, а там палучыць розныя бланкі, капіравальную паперу і стужкі для машынак. Я ўзрадавалася гэтай паездцы, думаю, пабываю там усюды, па магазінах пахаджу. Пазваніла Сінічкіну, каб спытаць, што яму там купіць, але яго не было, сказалі, што ён некуды паехаў.

Прыехалі ў сталіцу і з вакзала адразу ж зайшлі ў камісарыят. Сяржант здаў сваю зялёную папачку з дакументамі і падаўся на выхад. Я — за ім, але мяне спынілі, завялі ў асобны пакой, забралі пашпарт, грошы, пачалі абшукваць. Я абурылася, нічога не разумею, крычу на іх, што камандзіравана палучыць паперу, бланкі. А мне ў адказ смех: «Якія бланкі? Цябе ў турму прывезлі, вось і справа на цябе заведзеная». І паказалі мне тую папачку, што прывёз і здаў ім сяржант. Там я і засталася. Разы тры выклікалі на допыт, нічога канкрэтнага не пыталіся, і прад'явілі мне не артыкул з кодэкса, а проста КРД — контррэвалюцыйная дзейнасць, як прад'яўлялі тады многім. Я так і цяпер не ведаю, якую ж мне віну прыпісалі, бо суда не было, а вызначыла мне завочна восем гадоў тройка. Апынулася я аж на другім канцы краіны. Там і нарадзіла сына. Падобны ён на Сінічкіна толькі рыжаватымі валасамі і скуластым тварам. А так ён увесь у мяне, высочанькі, ладненькі...

— А як гэта магло здарыцца? Хто вас арыштаваў, хто паслаў матэрыял на тройку? — перапыніў я яе.

— Хто? Каму я была лішняя? Хто хацеў ад мяне пазбавіцца і пазбавіўся?

— Сінічкін? — ускрыкнуў я.

Таццяна Данілаўна змоўкла, патушыла недакураную цыгарэту аб падэшву свайго туфля, спытала ў мяне, ці не надакучыў яе расказ, можа, пакінуць працяг яго на заўтра, а то позна ўжо.

Я спытаў пра сына, пра брата Валодзю, Колю Пратасевіча, пра таго ж Сінічкіна. Адказы пачуў кароткія.

— Сінічкіна з таго часу не бачыла, але ведаю, што ён у адстаўцы з палкоўніцкай пенсіяй. Сын Валодзя тут са мной, а то як бы я ў гэтым доме апынулася.

— А брат Валодзя?

— Валодзя тады паехаў у Сібір да нейкага свайго далёкага родзіча. Працаваў на чыгунцы рамонтнікам пуці. Ніхто яго не шукаў. На вайну пайшоў добраахвотнікам, бо яго не мабілізавалі па стане здароўя. Два гады ваяваў, а на трэці загінуў. Загінуў... Не пайшла б я да яго тады, не папярэдзіла, і было б тое, што і з Пратасевічам. Адбыў бы свой тэрмін і жывым бы застаўся. Пратасевіч жа ў лагеры ўцалеў, вярнуўся жывы і здаровы. А Валодзя загінуў...

Порстка ўстала, пастаяла, заплюшчыўшы вочы, і моўчкі, не развітаўшыся, пайшла. Я ўслед ёй пажадаў добрай ночы, але адказу не было на гэта пажаданне.

Потым усе дні ў тым доме адпачынку я бачыў Таццяну Данілаўну з сынам, высокім мужчынам з валявым квадратным тварам, у акулярах, з густой рыжаватай чупрынай. Ён заўсёды трымаў маці пад руку. У сталовай — яны недалёка ад мяне сядзелі — быў папераджальна-ўважлівы, ласкавы і называў яе толькі мамачкай.

А са мной Таццяна Данілаўна больш ў размовы не ўступала, віталася толькі. Відаць, у той вечар усё выказала. Камусьці трэба было з душы выліць набалелае, расказаць пра яго. Тым выпадковым слухачом я і аказаўся.

КІНО

МАГЧЫМА, гадоў дзесяць таму, нават яшчэ год назад, з'яўленне такога фільма, як «Восень у Сарачах» (рэжысёр У. Бокун) прайшло б гладка. Спасаліся б на важнасць тэмы, заслугі героя — паважанага чалавека, старшыні калгаса, неабходнасць прапаганды дасягненняў перадавой гаспадаркі... Але цяпер гэты фільм выклікае толькі недаўменне і прымушае сур'ёзна задумацца, а што сабой уяўляе фігура старшыні ў стужках раўнадушных, як відаць, не ведаюць жыцця, кінематаграфістаў і тэлежурналістаў?..

# Вяселле са старшынёй

Пэўна, ніякім іншым прафесіям, нават лётчыкам і касманаўтам, не надавала наша мастацтва столькі ўвагі, колькі асобе старшыні, яго дзейнасці. На жаль, колькасць тут не перарасла ў якасць. Больш таго, пагоня за гэтай колькасцю, асабліва ў кінапубліцыстыцы, імкненне пра кожнага знакамітага старшыню стварыць дакументальны, а то і мастацкі фільм, прывялі да ўсталявання пэўных кінаштампаў. Што ў сваю чаргу дэвальвіравала цікавасць да гэтых людзей, зрабіўшы іх ходкімі экраннымі фігурамі.

Хто назаве ў іграваым кінематографе другога такога старшыню калгаса, які маштабам асобы, чалавечай і гістарычнай праўдай хоць бы наблізіўся да вобраза Трубнікава, створанага больш за 20 гадоў назад выдатным акцёрам М. Ульянавым? Ніхто не назаве, таму што няма такіх старшынь. Не ў жыцці, вядома, а ў нашым кінематографе. А створана ж за гэты час на розных студыях краіны не адна сотня толькі чыста «старшыньскіх» фільмаў!

Сваю лепту ў гэтую колькасць унёс і «Беларусьфільм»— ад абнадзейваючага «Сына старшыні» В. Нікіфарава да безнадзейных, псеўдапраблемных «З юбілеем пачакаем» Б. Гарошкі і «Асабістага інтарэсу» С. Сычова. Гэтыя фільмы не выратавала нават запрашэнне на галоўныя ролі такіх вядомых акцёраў, як К. Лаўроў і М. Яроменка-малодшы. Таму што іграць ім даводзілася не лёс, а сітуацыю, якая нават для недасведчанага гледача загадзя вырашана.

Яшчэ больш сумнае становішча з фільмамі аб старшынях у кіна- і тэледакументалістаў. Якімі жаданымі героямі для кінематаграфістаў маглі б стаць нашы выдатныя патрыярхі-старшыні як В. Ралько і пераемнік К. Арлоўскага В. Старавойтаў! Але створаныя пра іх рэжысёрам І. Вейнеровічам фільмы «Цяжкія радасці» і «Старавойтаў адказвае Сі-Эн-Эн», як блізняты-браты, прыгладжаны, ілюстрацыйныя і нават краечкам не дакранаюцца да тых праблем, якія, думаю, ёсць і ў гэтых знакамітых старшынь. У фільмах паказаны толькі знешні бок іх жыцця, толькі іх дасягненні. Яны выступаюць як «рыцары без страху і папроку», без памылак і сумненняў. Ім адводзіцца чыста функцыянальная роля — уручыць, узнагародзіць, па-апякунску пагутарыць з механізатарам ці даяркай, паразважаць на зададзеную і, як цяпер модна, — «праблемную» тэму... А гэтыя ж людзі прывыклі перш за ўсё дзейнічаць! Дзейнічаць самастойна, без аглядкі, без страхоўкі. Яны існуюць у змаганні страсцей, і, чаго грэх утойваць, вымушаны часам хітрыць, прыстасоўвацца, а то і выкарыстоўваць зацягнутую бюракратычную неразбярыху ў сельскай гаспадарцы. Яны жывуць не «перспектыўнымі» летуценнямі, а канкрэтнымі справамі хлебаробаў, і не столькі «гутараць, прадракаюць», колькі ўважліва слухаюць людзей, спасцігаючы іх мудрасць. Але гэтага ў падобных фільмах няма і ў паміне. Рапарты, справаздачы, лозунгі — ва ўрачыстых залах, на фермах і нават за абедзенным сталом. У іх рапартуюць усе— пачынаючы ад сакратароў абкомаў і райкомаў, старшынь і брыгадзіраў, канчаючы простымі калгаснікамі і іх дзецьмі. Хоць перавага аддаецца ўсё-такі «генералам». Лічыцца, чым большы чын, тым больш яму веры...

Толькі вось глядач такім фільмам не верыць. Любым, самым гладкім рапартам ён аддае перавагу канкрэтным ўчынкам. Больш верыць сваім вачам. Кінематаграфісты, улічваючы гэта, спрабуюць падмяніць нялёгкае жыццё на сяле дэманстрацыяй замкаў — палацаў калгасаў-мільянераў з мясцовай тэлесеткай («Старавойтаў адказвае Сі-Эн-Эн») і нават уласнымі курантамі, як у фільме «Восень у Сарачах». Але гледачу вядома, не з кіно, а з жыцця, што такія вёскі па пальцах пералічыш, а тысячы і тысячы іншых жывуць цяжкім, катастрафічна адстаючым нават ад гарадскога, у многім недасканалага, жыццём.

Дык для чаго ж ствараюцца такія парадна-старшыньскія фільмы? Здавалася б, з высакароднай мэтай — паказаць, як вось можна, аказваецца, жыць на сяле, калі добра працаваць. Але працы тут і не ўбачыш! Той з потам і крывёй працы, якой дастаецца нам багацце. А галоўнае — замоўчваюцца складанасці, пакутлівыя праблемы, з якімі пастаянна сутыкаюцца героі фільмаў. І не праінфармаваны чалавек, які паспрабаваў следаваць па шляху гэтых кінагерояў, сутыкнуўшыся з сапраўднымі цяжкасцямі, а не кінаперашкодамі, аказваецца, не ў стане пераадолець іх. У гэтым небяспека і шкоднасць падобных парадных стужак.

Але як бы мы ні бэсцілі фільмы-рапарты, юбілеі, панегірыкі, як бы ні даказвалі іх бескарыснасць, яны ўсё роўна заказваюцца, іх усё роўна патрабуюць, і перамен тут у бліжэйшы час, напэўна, не прадбачыцца.

А, можа, мы не ўмеем іх рабіць?

У нейкай меры спробу вырвацца з гэтай парадна-ілюстрацыйнай плыні фільмаў аб старшынях распачаў рэжысёр Ю. Лысятаў, які стварыў поўнаметражны дакументальны фільм «Круглы год». У ім ён расказваў аб станаўленні маладога старшыні А. Тарачэнкава. Пра тое, як ён штодня б'ецца, сілячыся аваладаць сітуацыяй, пераламаць неспрыяльнае развіццё спраў на сяле, абудзіць сумленне хлебаробаў. Хацелася б вітаць імкненне Ю. Лысятава і аператара Н. Сідорчанкі знайсці вобразнае, мастацкае вырашэнне гэтай няпростай тэмы, іх спробу паказаць свайго героя не проста носьбітам пэўнай функцыі, а чалавекам, які сумняваецца, адступае, спадзяецца... І — змагаецца, нягледзячы ні на што. Гэта прывабіла ўвагу да фільма, прымусіла сачыць за яго героем. Але ў рэшце рэшт засяроджанасць аўтараў на адным старшыні і вольнае ці міжвольнае ігнараванне яго акружэння, прывяло да таго, што герой пачаў дзейнічаць у нейкім вакууме. Адчування пералому, якога, па задуме кінематаграфістаў, дамагаецца малады старшыня, не ўзнікае — мы пакідаем залу з думкай пра марнасць яго намаганняў. Пойдзе гэты старшыня, і ўсё пацячэ па-старому...

Някепска быў задуманы фільм «Пасляслоўе да вымовы» рэжысёрам В. Сукманавым. У ім меркавалася расказаць аб вяртанні пасля XXVII з'езда КПСС дырэктара саўгаса В. Патапенкі, аб новым падыходзе да вырашэння многіх застарэлых праблем гаспадарання. Але рэжысёр не знайшоў дастаткова пераканаўчага мастацкага вырашэння тэмы, і ўсё зноў звялося да ілюстрацыйнай развагі аб «праблемах», а не паказу хоць бы спробы пераадолення іх.

Нібыта падсумоўваючы цэлы шэраг падобных бесканфліктных дакументальных фільмаў (хоць з цяжкасцю верыцца, што гэта «апошняя кропля»), летась выйшла карціна «Час патрабуе». У гэтай груваcткай і парадна-«дацкай» стужцы ёсць навела аб старшыні А. Дубко. Але і яна не ўнесла нічога новага ў асэнсаванне жыцця людзей з корпуса старшынь.

Тэлебачанню, здавалася б, у гэтым плане пашанцавала больш. Тут рэжысёрам І. Калоўскім быў створаны фільм «Зерні», які расказвае аб трох старшынях — В. Казанаве, В. Арцымені і А. Валодзьку. Дакладнымі, рэзкімі штрыхамі абмаляваны характары гэтых розных людзей, паказаны стыль іх работы. Кожны з іх існуе як бы сам па сабе, са сваімі праблемамі, са сваім лёсам — і ў той жа час рэжысёр пераканаўча паказвае, што іх аб'ядноўвае. Любоў да людзей працы. Высокая патрабавальнасць. Адказнасць за даручаную справу. І заканамерна, што фільм «Зерні» на Усесаюзным фестывалі ў Кіеве падзяліў галоўны прыз. І хацелася ўжо спадзявацца, што цяпер ужо наша дакументалістыка, што расказвае аб старшынях, будзе набірацца сіл, смялей засвойваць новыя далягляды гэтай няпростай тэмы.

На жаль, гэтага не атрымалася. Больш таго, такія стужкі, як «Восень у Сарачах», здавалася б, адкідаюць распрацоўку гэтай тэмы гадоў на 20 назад. Яны і сур'ёзнай гаворкі, мабыць, не заслугоўваюць, калі б не вострая неабходнасць атрымаць, нарэшце, ясны адказ — чаму і сёння яшчэ з'яўляюцца такія «восені», чаму наогул такія па-мастацку бездапаможныя бываюць стужкі аб старшынях?

Вывад адзін — занадта многа мы прывыклі дараваць фільмам на так званую актуальную, важную тэму. І рэжысёры, не без падстаў, разлічваюць, што тэмы гэтыя самі сабой вывезуць, прымусяць заплюшчыць вочы на творчую недастатковасць. Кінематаграфісты стварылі свой, выдуманы тып старшыні, развучыліся бачыць, заўважаць у сельскім жыцці сапраўдныя праблемы альбо ўсяляк пазбягаюць іх. І калі закранаюць часам складанасці быцця, то на ўзроўні побыту, не вышэй. Асноўнае імкненне — да прыгожасці, а пашанцуе — сенсацыйнасці. А сельская ж тэма, сёння, відаць, як ніякая іншая, патрабуе вастрыні назірання, глыбока сучаснага асэнсавання тых няпростых працэсаў, якія адбываюцца ў вёсцы. Здавалася б, «Тэлефільм» і «Летапіс» павінны будуць цяпер шукаць для фільмаў тэмы і героя сапраўды характэрных, якія садзейнічаюць праўдзіваму асэнсаванню становішча спраў у сельскай гаспадарцы. Але абодва творчыя аб'яднанні паспяшаліся запланаваць стужкі... пра доктара навук, які пакінуў кафедру, лекцыйную залу і паехаў у сяло, каб стаць старшынёй. Для доктара навук і кандыдатаў, што акружалі яго, магчыма, і карысна праверыць свае тэарэтычныя выкладкі на справе. Але наколькі гэта тыпова і характэрна сёння для нашага сяла?!. Ясна адно — для кінематаграфістаў гэты ўчынак чалавека проста чарговая сенсацыя, гатовы кінаход—не больш. І ёсць небяспека, што праз год-два, у дадатак да шэрых нарысаў, дакументальных тэлевізійных стужак з'явяцца і ігравыя фільмы з такім жа сюжэтам. Рух душы чалавека, яго няпросты выбар становіцца ходкай сенсацыяй, тэмай для кінагульні.

Кінематаграфісты, у рэшце рэшт, вымушаны будуць прыйсці да праўдзівага паказу жыцця людзей, да даследавання тых глыбінных працэсаў, якія адбываюцца сёння ў вёсцы. Толькі гэтым яны могуць вярнуць давер гледачоў, памагчы пераўтварэнню нашай зямлі.

Яўген РОСЦІКАЎ.

ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

СЁННЯ НА ГАРАДСКІХ ВУЛІЦАХ нярэдка можна сустрэць чалавека ў спартыўнай форме, а на ёй тры літары: КЛБ. Чалавек гэты бяжыць. І тут ужо кожнаму зразумела, што такое «КЛБ»: гэта абрэвіятура Клуба аматараў (любителей) бегу. А вось калі ранняй восенню ў кабінеты дырэктараў школ, вучылішчаў, тэхнікумаў, у прафкомы інстытутаў, заводаў рэспублікі ўваходзіць чалавек і мовіць «Дзень добры, я — з КЛБ», ён нярэдка чуе ў адказ: «А гэта што такое?» Няпрошаны госць, ён жа — прадстаўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вымушаны ўдакладніць: «КЛБ—гэта Канцэртна-лекцыйнае бюро філармоніі». «Ах, філармонія, — гучыць без асаблівай радасці. — Так адразу і казалі б. Дык што ж вы хочаце?»—«А хочам мы арганізаваць у вас у сёлетнім канцэртным сезоне музычны лекторый. Як вы да гэтага ставіцеся?»

Забудзем на нейкі час пра ўдзельнікаў гэтай гутаркі, каб вярнуцца да іх крыху пазней, сёе-тое высветліўшы і ўдакладніўшы для сябе і для нашага паважанага чытача.

Гэта што ж атрымліваецца? Клубы аматараў бегу—модная навінка, а Канцэртна-лекцыйнае бюро існуе дзесяткі гадоў. Тым не менш, пра карысць бегу чулі ўсе, для многіх гэта зрабілася нават патрэбай. А вось ці ёсць у сучасным нашым грамадстве патрэба ў Канцэртна-лекцыйным бюро і ў яго асноўнай «прадукцыі», г. зн. лекцыях-канцэртах, прысвечаных сур'ёзнай, класічнай музыцы?

Яшчэ пытанне. Чаму ўжо не адзін год КЛБ перад пачаткам канцэртнага сезона не атрымлівае заявак ад арганізацый на правядзенне лекцый-канцэртаў? Рэдкасцю сталі папярэднія заказы і на паасобныя тэматычныя праграмы, на лекцыі - канцэрты, прысвечаныя жыццю і творчасці вялікіх кампазітараў, паэтаў, артыстаў, памятным датам, праблемам музычнага выхавання. Не паступаюць заяўкі нават на музычна-адукацыйныя цыклы для школьнікаў, а ў распрацоўцы такіх цыклаў КЛБ мае нямала набыткаў. Затое — незлічоныя просьбы і нават патрабаванні наладзіць святочны канцэрт з пацяшальнай праграмай, а калі і пачынаецца гаворка пра цыкл лекцый, дык абавязкова пра рок-музыку, так званую маладзёжную музыку, эстраду.

Можа, пра нас проста не ведаюць? Дык жа КЛБ штогод рассылае па навучальных установах і розных арганізацыях падрабязныя планы-праспекты,

ДУМКА ЧЫТАЧА

## Ёсць месца для музея

Мастацкае жыццё Мінска ажыццяўляецца ў асноўным дзвюма ўстановамі—Дзяржаўным мастацкім музеем БССР і Палацам мастацтваў. Вядома, да іх можна далучыць выставачныя залы Саюза мастакоў і Дома работнікаў мастацтваў, а таксама экспазіцыі Музея старажытнай беларускай культуры АН БССР і музеяў у Заслаўі і Раўбічах. Спіс гэты для сталіцы рэспублікі, горада з больш як паўтарамільённым насельніцтвам, да крыўднага мізэрны. Да таго ж Музей старажытнай беларускай культуры, які валодае багатай экспазіцыяй і фондамі, мае напаўзакрыты характар, бо гэта перш-наперш навукова-даследчая ўстанова. Залы ж Саюза мастакоў і Дома работнікаў мастацтваў ні па плошчы, ні па ўмовах (дакладней, па ад-

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## У СПРЭЧКАХ—ІСЦІНА

«Аб густах спрачаюцца» — такую, крыху нечаканую назву мае брашура Вольгі Нячай, выпушчаная выдавецтвам «Навука і тэхніка». Аднак назва гэтая якраз і падыходзіць да выдання, бо разглядае аўтар фільмы капіталістычных краін, якія трапляюць на савецкі экран. Прадукцыя ж гэтая вельмі неаднародная па сваім складзе. Сустракаюцца фільмы прагрэсіўных майстроў розных краін, якія ў творчасці сваёй імкнуцца ўзнімаць надзённыя праблемы часу, сцвярджаюць гуманістычныя ідэалы. Аднак, на жаль, па-ранейшаму трапляе да савецкага гледача і нямала стужак, вельмі далёкіх ад сапраўднага мастацтва, у тым ліку і касавыя баявікі так званай буржуазнай «масавай культуры».

В. Нячай паказвае замежнае кіно такім, якое яно ёсць на самай справе. А паколькі аб густах сапраўды спрачаюцца, у брашуры шырока выкарыстаны выказванні аўдыторыі пасля прагляду пэўных фільмаў, узятыя як з друку, так і з сацыялагічных даследаванняў.

В. ЗАКРЭЎСКІ.

**Больш чым год назад прынята пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшым паляпшэнні канцэртнай дзейнасці ў краіне і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы канцэртных арганізацый. Многія публікацыі «ЛіМа» так ці інакш закранаюць пытанні, звязаныя з пастановай, адлюстроўваюць ход выканання ў рэспубліцы гэтага надзвычай актуальнага дакумента.**

**Нататкі лектара-музыказнаўца Беларускай дзяржаўнай філармоніі А. Парэцкага працягваюць размову пра стан музычнай прапаганды ў нашай рэспубліцы.**

# МУЗЫКА АДСТАЛА... АД СЛУХАЧА?

## Гаворка пра тое, ці патрэбна перабудова ў КЛБ

якія змяшчаюць прадуманую, старанна распрацаваную тэматыку лекцыйных цыклаў для любога кантынгенту слухачоў — ад малодшых і «вышэй»!

Гэтыя цыклы не раз ухваляліся на Усесаюзным музыказнаўчым семінары ў Маскве. Тым не менш, арганізацыі нашай рэспублікі не спяшаюцца паказаць сваю зацікаўленасць у справе музычна - эстэтычнага выхавання.

А ветэраны КЛБ памятаюць тыя часы, калі справы ладзіліся інакш. Уся дзейнасць бюро вызначалася тым, што на лекцыі-канцэрты былі пастаянныя заказы ад універсітэтаў музычнай культуры. Музычныя аддзяленні народных універсітэтаў культуры актыўна пра-залі ў гарадскіх і раённых дамах культуры, у інстытутах, тэхнікумах, вучылішчах, школах, рабочых інтэрнатах. Грамадскі рэктарат такога універсітэта (ён складаўся з людзей, дасведчаных у мастацтве і апантаных ідэяй эстэтычнага выхавання) лічыў для сябе справай гонару звярнуцца па дапамогу да сталічнай філармоніі і своечасова запрасіць да сябе вядучых артыстаў і музыказнаўцаў рэспублікі.

Такім чынам, для сур'ёзнай музыкі, для эстэтычнага выхавання, для вялікай справы далучэння дэмакратычнага слухача да мастацтва змястоўнага, высокадухоўнага быў як бы створаны рэжым найбольшай спрыяльнасці. І гэта было натуральным працягам традыцый, што нарадзіліся ў першыя гады пасля Вялікага Кастрычніка, калі ўдалося пераадолець спакусу відовішча, ёгкага пацяшальнага мастацтва для мас — на карысць мастацтва змястоўнага, на карысць высокай класікі. Ля вытокаў гэтай традыцыі імёны Леніна, Чычэрына, Калініна, Луначарскага. Аднак сёння са шматлікіх універсітэтаў культуры з філармоніяй супрацоўнічае толькі адзін — Палаца культуры Белсаўпрофа, і то не абыходзіцца без складанасцей.

Іншыя ж ці ўвогуле закрыліся, ці «абраслі» аддзяленнямі юрыдычных, эканамічных, тэхнічных і яшчэ якіх заўгодна ведаў, ды толькі не музычных.

ЗРАЗУМЕЛА, што ў такіх умовах КЛБ вымушана было перайсці на «самадзейную», па сваёй ініцыятыве, арганізацыю цыклаў і паасобных лекцый-канцэртаў па прынцыпе «працуем там, дзе возьмуць». А дзе возьмуць? Вось, дарэчы, і час вярнуцца да таго зусім не выдуманага дыялога паміж адміністратарам - упаўнаважаным КЛБ і так званым «заказчыкам».

З усёй адказнасцю магу сказаць, што працяг дыялога часцей бывае такі: «Не, нам гэтага не трэба!» — «Але чаму?» — «У нас няма грошай на аплату нават адной лекцыі, не тое што цыкла з сямі сустрэч!»

Магчымы і такі варыянт адмаўлення: «Не, вашы лекцыі, напэўна, нудныя, незразумелыя, а самі канцэрты сумніцельныя па якасці, «халтурныя». Не, не возьмем!»

І, нарэшце, самы распаўсюджаны адказ: «Гэтую вашу філармонію (г. зн. сур'ёзную, класічную музыку. — **А. П.**) у нас усё роўна ніхто не разумее. Моладзь на лекторый не пойдзе, а «гнаць пад прымусам» мы не можам і не будзем...»

Але пасланец філармоніі не здаецца, праяўляе, часам, больш чым настойлівасць: «Няма грошай—гэта, канечне, бяда. Але давайце паспрабуем арганізаваць платны лекторый, па білетах. Або пашукаем шэфаў, здольных аказаць вам фінансавую дапамогу ў высакароднай справе музычна-эстэтычнага выхавання. Або разам угаворым банк прапусціць пры пералічэнні грошы з дырэктарскага фонду, фонду прадпрыемства. Словам, фінансавую праблему можна вырашыць— было б супольнае жаданне.

Далей. Вы сумняваецеся наконт якасці нашай работы, сумняваецеся, ці здатныя нашы музыказнаўцы гаварыць «на роўных» з маладзёжнай аўдыторыяй. Але скажыце шчыра: калі вы ў апошні раз слухалі нашы канцэрты-лекцыі? А, гадоў 20 назад... Што ж, тэматыка універсітэтаў культуры тады і сапраўды дубліравала курс музычных навучальных устаноў, а методыка лектара часцяком была строга акадэмічнай, мела на мэце толькі выкладанне асноў музычнай адукацыі. Ды з таго часу ў дзейнасці КЛБ многае змянілася.

Гляньце хоць бы на нашы планы-праспекты. Убачыце там тэмы «Музыка і сучаснасць», «Што страчвае чалавек. раўнадушны да музыкі», «Рэвалюцыя, музыка, тэатр», «Да таямніц творчасці», «Музыка і маральнасць», «Сага пра Грыга», «Музыка і полымя», «Не цурайцеся роднай песні...» Нашы цыклы складзены з вольных, сучасных, захапляючых тэм, якія аб'ядноўвае актуальны змест: «Музыка ў жыцці чалавека і грамадства». Нашы музыказнаўцы — і спрактыкаваныя, і маладыя —аб'яднаны ў творчую секцыю, шукаюць і знаходзяць новыя формы кантактаў з сучасным слухачом— вострыя, публіцыстычныя формы.

Што датычыць уласна канцэртнай часткі, дык тут вашы слухацкія інтарэсы «ахоўвае» мастацкі савет, які «халтуру» не прапусціць. У артыстычным складзе нашага бюро сёння нямала яркіх выканаўцаў, лаўрэатаў рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсаў, таленавітых выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, музычных ВНУ Масквы і Ленінграда. Перабудова, скіраваная на павышэнне якасці мастацкай «прадукцыі», ідзе ў КЛБ ужо некалькі гадоў. У выніку — у мінулым канцэртным сезоне бюро не атрымала ніводнай рэкламацыі, ніводнага адмоўнага водгуку на свае канцэрты-лекцыі, атрымала нямала грамат і ўдзячных пісьмаў».

ЦЯПЕР НАКОНТ ТАГО, што «класіку не разумеюць, класіка састарэла, на класіку не пойдуць». Бадай, менавіта гэтую перашкоду, што ўзнікае перад лекцыяй-канцэртам, зрушыць цяжэй за ўсё. Гэта, на маю думку, той выпадак, калі суб'ектыўная прычына вырасла да памераў... стыхійнага бедства. Я тлумачу гэтую з'яву так. Прадстаўнік філармоніі сутыкнуўся з выхавацелем, кіраўніком, камсамольскім ці прафсаюзным арганізатарам, які сам музыку не любіць, не разумее і таму катэгарычна адмаўляе магчымасць таго, што нехта з ягоных выхаванцаў ці таварышаў па калектыве можа ставіцца да сур'ёзнага мастацтва іначай, чым ён сам. Пераканаць такога партнёра немагчыма.

І вымушаны наш адміністратар ісці ні з чым, спадзеючыся ўсё ж знайсці такую ўстанову, дзе—хоць гэта ўжо здаецца фантастыкай — супалі б дзве акалічнасці: наяўнасць грошай, выдаткаваных на эстэтычнае выхаванне, і наяўнасць кіраўніка, які, калі не трапятліва, дык хаця б паважліва адносіўся да сур'ёзнага, вялікага мастацтва.

«Вы адсталі ад жыцця,—даводзілі нам у адной навучальнай установе. — У краіне ідзе перабудова па ўсіх напрамках. Ад дзеячаў мастацтва таксама патрабуецца, каб яны ўлічвалі інтарэсы мас. Так што, таварышы філарманічныя музыканты, кіньце вашы раялі, скрыпкі, мецца-сапраны і басы, бярыце ў рукі электрагітары, бярыце сінтэзатары, стварайце рок-групы».

Не думаю, што калісьці будзе ўсур'ёз абмяркоўвацца пытанне менавіта гэткай перабудовы КЛБ. А вось што нам сапраўды неабходна, дык гэта перабудова ўзаемаадносін паміж сур'ёзным, змястоўным мастацтвам і слухачом. Думаю, у аснове такой перабудовы мае быць значны дзяржаўны дакумент, рашэнне, якое вярнула б лекцыі-канцэрту прыярытэтнае месца ў сістэме канцэртнай дзейнасці. Дарэчы нагадаць, што ў 1918 годзе ў Петраградзе папулярныя былі афішы, на якіх вялізнымі літарамі былі намаляваны словы: «Лекцыя-канцэрт». Спецыяльнай пастановай Петраградскага Савета дэпутатаў даводзілася, каб усе канцэрты сімфанічнай, камернай, опернай музыкі мелі абавязковае ўступнае слова лектара!

Варта было б, каб адпаведны дакумент вырашыў і неверагодна заблытаную праблему фінансавага забеспячэння лекцыйна-канцэртнай дзейнасці філармоніі. На жаль, усе папярэднія рашэнні і пастановы датычыліся **канцэртнай** работы, рэгламентавалі **канцэрты**, ды зусім абміналі такое паняцце, як **лекцыя-канцэрт.**

МЫ ГАТОВЫ ПРАЦАВАЦЬ і «на ка́су», і па абанементах (права выпуску і продажу якіх КЛБ чамусьці дасюль не мае), і на гаспадарчым разліку. Але не будзем забывацца, што ў лекцыі-канцэрта свая арганізацыйная спецыфіка, свае задачы, свая метадалогія, і ён не павінен спаборнічаць з эстрадай у прыбытках ці ў колькасці «наведвальнікаў».

Гучна і разумна рэкламуючы лекцыі - канцэрты, неабходна ўзняць іх прэстыж. На старонках маладзёжнага друку, дзе сёння гэтак ахвотна расказваюць пра навіны рок-музыкі, варта было б расказваць і пра канцэртна - лекцыйныя цыклы КЛБ, адрасаваныя моладзі. Чаму б, скажам, не пракаменціраваць работу нашых музыказнаўцаў у дзіцячых абанементах канцэртнай залы, працу плённую і шмат у чым, лічу, унікальную?

І яшчэ. Музычны лекторый можа працаваць з высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння толькі тады, калі ўзначальвае яго не «заказчык», які адразу губляе ўсялякую цікавасць да канкрэтнага мерапрыемства, падпісаўшы дагавор, а чалавек, які любіць мастацтва, захоплены ідэяй музычнага, эстэтычнага выхавання, чалавек культурны і аўтарытэтны. Зычлівы, засяроджаны, актыўны пастаянны слухач у зале, настроены інструмент і акуратна прыбраная сцэна, агульная прыўзнятая атмасфера, — усё гэта магчыма толькі там, дзе ёсць кантакт музыказнаўцы з калегам-выхавацелем **на месцы.** Так што, думаю, у філармоніі павінна быць права знаходзіць такіх людзей, аднадумцаў, і матэрыяльна заахвочваць іх у арганізацыі і фарміраванні аўдыторыі, падводзіць з імі вынікі работы канцэртна-лекцыйнай брыгады, абмяркоўваць тэматыку нашых планаў і да т. п.

Вось, думаецца, асновы той арганізацыйнай перабудовы ў КЛБ, якая абавязкова дасць і новыя творчыя, мастацкія дасягненні. Зарука гэтага — сённяшняя самаадданая праца таленавітых людзей, жыхароў нашай сталіцы, якія на пытанне пра месца работы з годнасцю адказваюць: «Мы з філармоніі, з КЛБ!».

**Анатоль ПАРЭЦКІ.**

---

сутнасці ўмоў) экспанавання не могуць сур'ёзна ўспрымацца як выставачныя адзінкі.

Дзяржаўны мастацкі музей мае багатыя фонды з твораў беларускага старажытнага і савецкага мастацтва, а таксама значную калекцыю рускага і заходнееўрапейскага мастацтва. Але на сённяшні дзень у музеі наогул не існуе экспазіцыі беларускага савецкага мастацтва, мізэрна прадстаўлена наша старажытнае мастацтва. У залах XIX, пачатку XX стагоддзяў сярод твораў рускага мастацтва экспануецца нязначная частка жывапісных палотнаў беларускіх мастакоў. Тут пануе прынцып экспазіцыі, зразумелы, мабыць, адным толькі супрацоўнікам музея. Іншыя залы і галерэя музея фактычна служаць для перасоўных і персанальных выставак. А з нядаўняга часу ў іх наладжана яшчэ і сховішча. Бясспрэчна, нашаму гораду, рэспубліцы неабходны і выстаўкі майстроў саюзных рэспублік і замежнага мастацтва, а Дзяржаўны мастацкі музей БССР — адзінае прыстасаванае для гэтага памяшканне. Тым не менш, відавочна і другое. Факт адсутнасці пастаяннай, стабільнай, шматграннай экспазіцыі беларускага мастацтва, як старажытнага, так і мастацтва XIX, пачатку XX стст., беларускага савецкага выяўленчага мастацтва ўсіх відаў, уключаючы графіку (якая пастаянна ігнаруецца дырэкцыяй музея), дае нам права меркаваць, што музей фактычна не выконвае сваёй галоўнай функцыі — прапаганды беларускага мастацтва. Зразумела, што на такіх плошчах, якімі валодае музей, вельмі цяжка стварыць усеабдымныя экспазіцыі і беларускага і рускага мастацтва. Але адсутнасць нацыянальнага музея самым адмоўным чынам адбіваецца на выхаваўчым працэсе ў мастацкіх установах, адмоўна ўплывае на агульны эстэтычна-маральны ўзровень насельніцтва. Гэтае становішча незразумелае нам, мастакам. І пра гэта гаварылася на апошнім з'ездзе мастакоў БССР. Вядома, вырашыць гэтую вострую праблему можна, калі рэканструяваць цяперашні будынак музея. Міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч абяцаў на з'ездзе, што з 1988 года пачнецца рэканструкцыя музея. Гэта паведамленне ўсяляе надзею.

Дзяржаўны мастацкі музей БССР можна рэарганізаваць у карцінную галерэю твораў заходнееўрапейскага, рускага і савецкага мастацтва. Музей валодае для гэтага неабходнай калекцыяй. А пад музей беларускага нацыянальнага мастацтва варта прыстасаваць адзін з лепшых архітэктурных комплексаў у гістарычным цэнтры сталіцы, у якім плануецца комплексная рэстаўрацыя. Такім комплексам, напрыклад, могуць быць будынкі базыліянскіх кляштараў разам з узноўленым храмам Св. Духа — архітэктурным цудам Мінска, рэнесансавым помнікам XVII ст.

У Мінску вельмі адчувальны дэфіцыт мемарыяльных асяродкаў, асабліва выяўленчага мастацтва. Гэта не значыць, што гісторыя нас абдзяліла ўвагаю. Яны ёсць, але занядбаны, або выкарыстоўваюцца не па прызначэнні. Назавём, напрыклад, дом беларускага мастака пачатку XIX ст. В. Ваньковіча, у якім прынята рашэнне стварыць музей. Але і сёння будаўнічых работ не відаць, будынак па-ранейшаму адкрыты снегу і дажджу.

В. Ваньковічу належаў і другі дом у Мінску — загародняя сядзіба ў Вялікай Сляпянцы (на пачатку XIX ст. вёска ў прыгарадзе Мінска, а зараз адзін з раёнаў горада). Гэта цудоўны двухпавярховы будынак стылю класіцызму пачатку XIX ст. Ён захаваўся амаль без страт. Каля дома часткова захаваўся і старадаўні парк.

У гэтым доме ў Ваньковіча была майстэрня. Тут сустракаліся выдатныя дзеячы беларускай культуры В. Дунін-Марцінкевіч і кампазітар С. Манюшка — аўтары «Сялянкі», першай беларускай оперы, У. Сыракомля і іншыя. Да нядаўняга часу гэта быў жылы дом. Ці ведаюць жыхары дома (і не толькі яны), якую гістарычную і мастацкую каштоўнасць мае гэты будынак? Наўрад. Ніхто ж не парупіўся, каб на доме віселa мемарыяльная дошка ў гонар колішняга славутага гаспадара.

Сёння ў гэтым доме размясцілася Цэнтральнае наладачнае ўпраўленне «Прамсувязьэнерганаладка». Як ні дзіўна, але згоду на такую форму эксплуатацыі дало... Міністэрства культуры. Мастакі выступілі з заклікам адмяніць гэта рашэнне, гаварылася пра гэта і на партсходзе Саюза мастакоў. Ды толькі вынікаў — ніякіх... А з будынкам тым часам адбыліся непажаданыя змены: жыхары выселены (у адным пакоі засталося толькі аддзяленне сувязі), і домператвораны ў зручнае месца для выпівох. Балазе, побач крама, якая бойка гандлюе спіртным...

Адмена ранейшага рашэння аб перадачы дома В. Ваньковіча на Парніковай вуліцы «Прамсувязьэнерганаладцы» была б канкрэтным доказам таго, што сапраўды ідзе перабудова і ў сферы культуры.

Дом В. Ваньковіча можа і павінен стаць музеем беларускага мастацтва XIX ст. імя В. Ваньковіча з мемарыяльнай майстэрняй мастака (зразумела, пасля рэстаўрацыі самога будынка). Тады можна было б заадно упарадкаваць прылеглую тэрыторыю і пачаць аднаўленне парку.

Сапраўднае адраджэнне дома-сядзібы ў Сляпянцы — справа рэальная, і хочацца спадзявацца, што яна будзе здзейснена.

**Мікола КУПАВА,**
**мастак.**

**ПОЗІРК У МІНУЛАЕ**

# Энцыклапедыст са Шчорсаў

Маёнтак Шчорса, цяпер цэнтр аднайменнага сельсавета і калгаса Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці, дзесьці ў пачатку другой паловы XVIII ст. набыў еўрапейскую вядомасць, а з пачатку XIX ст. зрабіўся своеасаблівай крыніцазнаўчай Мекай для ўсіх тых, хто вывучаў ці проста цікавіўся гісторыяй духоўнай і матэрыяльнай культуры народаў Вялікага княства Літоўскага, цэнтральную частку якога, па вобразным вызначэнні Ф. Багушэвіча, «як тое зярно ў гарэху», займалі землі сучаснай Беларусі. Сталася гэта дзякуючы шматграннай дзейнасці Іяахіма Літавора Храптовіча, усебакова адоранага і высокаадукаванага чалавека. Дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, філосафа і асветніка, прыродазнаўцы і гуманіста, публіцыста і паэта.

Нарадзіўся Іяахім Літавор Храптовіч 4 студзеня 1729 г. У фальварку Ясянец каля аднайменнай вёскі з курнымі хатамі ўздоўж дарогі з Гарадзішча ў апетыя А. Міцкевічам Туганавічы. Тут жа ў Ясянцы, у доме дзеда па мацеры К. Несялоўскага, ён атрымаў першапачатковую адукацыю. Тут пазнаёміўся ён і з асновамі паэтыкі. Прынамсі, пра гэта можна меркаваць па беларускаму вершу, якім падлетак адзначыў уваходзіны ў новы палац:

**Я сам першы внук ваш малы**
**Буду в своім слове сталы,**
**Повек Вашы не забуду**
**Ласкі, покуль жыці буду...**

На фарміраванне характару і светапогляду юнака вялікі ўплыў аказаў дзед, фігура надзвычай каларытная і, між іншым, даволі пладавіты пісьменнік.

Захапленне чароўным светам паэзіі І. Храптовіч пранёс праз усё сваё доўгае жыццё. Нават у сталым веку ў хвіліны роздуму і смутку ён часта прыпадаў да яе гаючай плыні. Сваё стаўленне да прыроды, прыгажосці, кахання, маральна-этычных пытанняў будучы граф з аднолькавай лёгкасцю выказваў у вершах на беларускай, польскай і лацінскай мовах: «Всем многі век у новай хаці», «Гімн прыгажосці», «Дуб і трысцінка», «Пра каханне», «Адказ Храптовіча Карпінскаму», «Да карціны Рафаэля» і інш. Уважаючы паэзію за высокае мастацтва, ён разам з тым успрымаў яе як дзейсны сродак распаўсюджання навуковых ведаў і ўсталявання ў грамадстве рацыянальных прынцыпаў маралі. Свае тэарэтычныя погляды на гэты від прыгожага пісьменства І. Храптовіч сфармуляваў у грунтоўным артыкуле «Паэзія», змешчаным у энцыклапедычным выданні І. Красіцкага «Збор найпатрэбнейшых звестак» (1781 г.). Выказаныя ў ім думкі пераклікаюцца з ідэямі Асветніцтва і фізіякратызму і шмат у чым не супадалі «з агульнапрынятымі сцвярджэннямі» тагачасных мэтраў прыгожага пісьменства.

Пасля Віленскай акадэміі І. Храптовіч працягвае адукацыю за мяжой. Для пашырэння агульнага кругагляду і азнаямлення з найноўшымі дасягненнямі навукі наведвае Германію, Аўстрыю, Францыю, Італію, Швейцарыю, Англію. Адначасова знаёміцца з рацыянальнымі спосабамі земляробства. Цікавяць яго і дапаможныя галіны сельскай гаспадаркі — садоўніцтва, агародніцтва, сажалкавае рыбаводства і асабліва пчалярства.

Аднак сёння нас больш цікавіць грамадская дзейнасць І. Храптовіча, якая непарыўна звязана з пашырэннем і рэалізацыяй на практыцы ідэй Асветніцтва і фізіякратызму. Панацэяй ад усіх сацыяльных балячак асветнікі лічылі распаўсюджанне ведаў, асветы, навукі і розуму. Фізіякраты, паслядоўнікі французскіх эканамістаў Ф. Кенэ і А. Цюрго, аддавалі прыярытэт прыродзе. Паводле іх уяўленняў, менавіта яна з'яўляецца адзінай крыніцай багацця. На іх думку, грамадства ўзбагачаецца выключна за кошт зямлі, а прыбавачная вартасць (чысты прыбытак) ствараецца толькі ў прыродзе, у прыватнасці, у сельскай гаспадарцы. Таму фізіякраты да прадукцыйнага класа адносілі тых, хто працуе на зямлі. Прамысловасць, згодна іх перакананню, не стварае нічога новага, а толькі відазмяняе прыродныя каштоўнасці. Як Асветніцтва, так і фізіякратызм паводле сваёй сацыяльна-палітычнай сутнасці былі ідэалогіяй буржуазіі ў перыяд зараджэння элементаў капіталістычнага грамадскага ладу, яны ўтрымлівалі шэраг пазітыўных момантаў. Асветніцтва прапагандавала навуковыя адкрыцці прыродазнаўства, выступала супраць рэлігійнага абскурантызму, схаластыкі, клерыкальнага засілля ў школе, феадальнага ладу. Навуковая каштоўнасць ідэй фізіякратаў у тым, што яны першыя зрабілі спробу ўявіць усё капіталістычнае ўзнаўленне цалкам, перанесці даследаванне эканамічных з'яў са сферы абарачэння ў сферу вытворчасці і, як адзначаў К. Маркс, паклалі пачатак эканомікі як навукі.

І. Храптовіч лічыў, што павялічыць прадукцыйнасць усіх галін гаспадаркі можна толькі тады, калі земляроб будзе эканамічна і маральна зацікаўлены ў выніках сваёй працы. Зыходзячы з пастулата роўнасці людзей, ён выступаў за асабістую вольнасць і адукацыю ўсіх саслоўяў грамадства, у тым ліку і сялянства. І ў 1790 г. прыступае да рэалізацыі сваіх поглядаў на практыцы. У маёнтках Шчорсы, Вішнева і Нягневічы скасоўвае паншчыну і ўстанаўлівае мінімальны зямельны надзел. За карыстанне зямлёй спаганяецца трэцяя частка ўраджаю або яго кошт па навагрудскіх цэнах. Большыя правы атрымала сялянская грамада і яе органы самакіравання. Былі створаны каса сялянскай узаемадапамогі і страхавы магазін, адчынены бальніца і школа з ланкастэрскай сістэмай навучання. Сялянскія дзеці, акрамя пачатковых ведаў, набывалі агранамічныя і рамесніцкія навыкі.

Рэформа на свой час мела прагрэсіўнае значэнне, але насіла палавінчаты характар. Зямля, сенакос, лес і іншыя сельскагаспадарчыя ўгоддзі засталіся ў руках І. Храптовіча. Сяляне, па сутнасці, ператварыліся ў арандатараў, а не ў вольных хлебаробаў. Так званая «асабістая вольнасць» была абстаўлена шэрагам абмежаванняў і ўмоў. Селянін, напрыклад, мог змяніць месца жыхарства, але павінен быў заплаціць за гэта пэўную суму грошай або пасадзіць на свой надзел другога земляроба. І то са згоды адміністрацыі двара. У гэтым ключ да разумення супярэчнасці паміж поглядамі і практычнымі ўчынкамі шчорсаўскага рэфарматара. Фізіякрат Храптовіч аказаўся не ў стане саўладаць з Храптовічам-феадалам. Пераступіць сацыяльную мяжу, уласна, парваць сувязь са сваім асяроддзем чалавеку XVIII стагоддзя, а тым больш буйному магнату, было не лёгка. Але і тое, што зрабіў І. Храптовіч, заслугоўвае пашаны і памяці нашчадкаў.

Пазбаўленыя штодзённай, дробязнай і часта абразлівай апекі, сяляне хоць у межах сваёй гаспадаркі адчулі пэўную самастойнасць і палёгку, не столькі, відаць, матэрыяльную, колькі псіхалагічную. Але і адносная свабода хутка прынесла свой плён. Усе, хто наведваў Шчорсы, аднадушна адзначалі станоўчыя вынікі рэформы. Перш за ўсё яны выявіліся ў стабільным павышэнні ўраджайнасці: у сярэднім яна дасягнула «сам 8—10», а на лепшых землях — нават «сам 18—26».

Буржуазныя гісторыкі сцвярджаюць, што І. Храптовіч у сваёй дзейнасці кіраваўся выключна філантрапічнымі матывамі: «быў шчодрым не з утылітарызму, а з перакапання і імкнення сэрца». Безумоўна, ён спачуваў сялянам і ў пэўнай меры імкнуўся палегчыць іх становішча, але не за кошт змяншэння сваіх уласных прыбыткаў, а шляхам інтэнсіфікацыі і павышэння прадукцыйнасці працы. Дарэчы, ён сам адзначаў, што ў аснове яго рэформы ляжаў цвярозы разлік: «здаровы розум і еўрапейскі вопыт».

Дзейнасць асветнікаў і фізіякратаў, у тым ліку і І. Храптовіча, «падрыхтавала пераход да больш паслядоўнай матэрыялістычнай грамадскай і філасофскай думкі», бо «ўсюды, дзе асабістыя адносіны,— як адзначаў Ф. Энгельс,— былі выціснуты грашовымі адносінамі, натуральная павіннасць — выплатай грошай, там месца феадальных адносін займалі буржуазныя». Менавіта гэты працэс, дакладней, яго асобныя рысы, выразна прасочваецца ў гаспадарцы шчорсаўскага рэфарматара.

Больш паслядоўным у правядзенні сваіх поглядаў І. Храптовіч выступае ў іншай галіне грамадскай дзейнасці — рэформе існуючай школьнай сістэмы і пашырэнні асветы ў краі. Тут ён больш актыўна і метадычна ажыццяўляе ідэі фізіякратаў, якія лічылі, што адукаваны селянін будзе лепш гаспадарыць на зямлі і тым спрыяць павелічэнню заможнасці не толькі феадалаў, але і багацця ўсёй краіны.

Правядзенню рэформы заццята перашкаджалі клерыкалы і закаснелыя ў прыгонніцтве феадалы, тая іх кансерватыўная і пераважна большая частка, якая лічыла, што «сялянскі род добры, калі знаходзіцца ў смутку, але дрэнны, калі ён у радасці або калі адукаваны школьнымі навукамі».

Выключна варожую пазіцыю займалі езуіты, якія, па сутнасці, манапалізавалі выхаванне юнацтва на Беларусі. Таварыства Ісуса было палітычна добра арганізаваным, эканамічна моцным і таму надзвычай небяспечным праціўнікам. Правядзенне рэформы стрымлівала і адсутнасць грашовых сро/ каў. Аднак фінансавую праблему дапамог вырашыць, сам не ведаючы таго, папа Клімент XIX. У 1773 г. ён выдаў булу аб скасаванні ордэна езуітаў, якія, бы метастазы ракавай пухліны, аплялі сваімі кляштарамі, рэзідэнцыямі і калегіямі ўсю Беларусь. Гэтую акалічнасць адразу ж скарысталі прыхільнікі школьнай рэформы. На сейме 1773 г. І. Храптовіч унёс прапанову стварыць адукацыйную камісію, а ўсе без выключэння сродкі і маёмасць езуітаў перадаць у распараджэнне адмысловага фонду «для адукацыі і выхавання юнацтва».

Адукацыйная камісія, «першае ў гісторыі чалавецтва міністэрства асветы», адкрыла на Беларусі 20 школ: 17 з сярэдняй ступенню навучання і 3 акадэмічныя (у Брэсце, Гродне і Навагрудку). Статут адукацыйнай камісіі патрабаваў ад настаўнікаў развіцця ў дзяцей самастойнага мыслення: «каб вучні больш рабілі поспехаў разважаннямі, чым завучваннем прадметаў напамяць». Школа ў значнай ступені вызвалілася ад дагматызму і схаластыкі, перайшла ў

# Я табе напісаў «Барыса Гадунова»...

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13).

аўтарскае «не!» І ў дадатак: «Рабіце, што хочаце! Я табе давяраю!»

Караткевіч не перапісваў і не дапісваў свае п'есы. Наконт «Барыса Гадунова» ён сапраўды не жартаваў, у ім «сядзеў» драматург, але драматург гэты, здавалася, драмаў. Вельмі шкада, што ён не дапрацоўваў свае творы. Думаю, што гэта магло б абудзіць у ім вялікую любоў да тэатра.

Апошняя наша сустрэча адбылася ў Сімферопалі, куды Караткевіч прыехаў да нас чытаць «Маці ўрагану». Тэатр быў на летніх гастролях. Спёка! Усе мы марылі штодзень бываць на моры, але заміналі рэпетыцыі, спектаклі, — адным словам, праца.

Прыляцеў Уладзімір Сямёнавіч з жонкай Валянцінай. Уладкаваўшы іх у гасцініцу, мы хацелі пасядзець, пагаварыць ды і п'есу карцела глянуць. Гэта заўсёды так бывае: неадольнае жаданне прачытаць хоць бы старонку, і ў той жа час — страх. А што, калі не...

Ён быў, як заўсёды апошнім часам, стомлены, і, што самае дзіўнае, — не зацікаўлены прадметам далёкай вандроўкі. Ні слова аб п'есе. Размовы ўвогуле. П'есу на ноч я ўсё ж выпрасіў, бо не ўмею слухаць чытку на аўдыторыі, не магу поўнасцю ўключыцца. Ён, праўда, адмаўляўся, кажучы, што сам будзе чытаць на трупе, дык і не трэба псаваць уражанне. Але п'есу даў. Я часта ўспамінаю той няшчасны вечар і, як заўсёды, доўгую п'есу Караткевіча. Недзе каля дзвюх гадзін ночы я зразумеў, што п'есы не ўспрымаю: мучу сябе, угаворваю, перачытваю па некалькі разоў старонкі. Сапсаваў сабе ноч, а назаўтра ж трэба нешта казаць самому Уладзіміру Сямёнавічу, шукаючы адпаведныя словы.

Раніцай сабраліся ўсе акцёры, дырэктар Асвяцінскі, мастак Салаўёў. Валодзя Ганчароў, убачыўшы мяне, адразу канстатаваў: «Што, не спадабалася?» Я ведаю, што ў мяне, як у бяздарнага акцёра, усё відаць па твары... Усё ж з надзеяй іду ў фае, спадзеючыся, што здолею інакш успрыняць п'есу, пачуўшы яе яшчэ раз. Учора быў цяжкі дзень: рэпетыцыі, спектакль, сустрэчы...

Чытае — слухаем. Сачу, як успрымаюць п'есу калегі. Недзе ў сярэдзіне першай дзеі пачалі варушыцца акцёры, паглядаюць на мяне. Імкнуся быць зацікаўленым. Не атрымліваецца! Караткевіч прыпыняецца і пытае: «Што, не цікава?» — «Не, не, чытайце!» — чуюцца галасы. Яшчэ засталася нейкая надзея ці аўтарытэт аўтара стрымлівае? Але гэта ненадоўга. Чуюцца цяжкія ўздыханні... Правал?! Якое гэта цяжкае адчуванне! Адна думка свідруе: «Чалавек чорт ведае адкуль ехаў, кінуўшы справы, лепш бы ўжо гэта дома адбылося». Добра яшчэ, што ён Валянціне не дазволіў прысутнічаць. Можа, прадчуваў? Праз нейкі час нават пачаў патроху ўшчуваць няўважлівых слухачоў. У такія хвіліны вельмі шкада аўтара. Артысты ж, як дзеці. Супакояцца на хвіліну, а потым зноў працягваецца дыялог уздыханняў і пераглядак.

Закончыўшы чытанне, склаўшы старонкі сваёй п'есы, Караткевіч узняў галаву і ўсім сваім выглядам задаў пытанне: «Як?» Адказы ў такіх выпадках бываюць настолькі прымітыўныя і недарэчныя, што раздражняюць неверагодна. Бачу, як аўтар нервуецца, пачынае злаваць. І тут жа ўсё спыняе! Ну, не падабаецца, дык не падабаецца!

Караткевіч ёсць Караткевіч, ён не хоча фальшывых кампліментаў. Адчуў, што кантакту не атрымалася, і сам усё спыніў. Цяжка ўзняць галаву, паглядзець у вочы, быццам сам я ва ўсім вінаваты. Чаму, чаму ніхто не ўспрымае матэрыял? Усе ж так чакалі! «Званы» і «Кастусь» атрымаліся! Ізноў з удзячнасцю ўспамінаю Караткевіча. Ён падыходзіць да мяне і кажа: «Ну што, Валерый, паедзем у Ялту, я вас рыбай пачастую!» — «Якая Ялта, якая рыба, ды і дзе ён яе?..»

Аднак выпраўляемся. Настрой пакрысе паляпшаецца — увагу прыцягваюць навакольныя краявіды і сам Караткевіч. Ізноў жарты, анекдоты, цікавыя гісторыі, былі і байкі, якіх у яго так многа. Пад'язджаючы да Ялты, Уладзімір Сямёнавіч засвяціўся ўвесь, узрадаваўся, хоць надвор'е нас сустрэла зусім не ялцінскае: вецер наляцеў і нават ці не на дождж збіралася. Найперш ён павёў нас на кірмаш. Ялцінскі кірмаш! Колькі ён напярэдадні расказваў пра яго, ды неяк не

